ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 30 (2492)
ПЯТНІЦА
24
красавіка 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Хатынь — наш боль!

Гэтыя словы найбольш поўна выказвалі стаўленне кожнага беларуса да велічнага мемарыялу, створанага на месцы спаленай фашыстамі невялікай вёскі на Лагойшчыне...

Хатынь — наш гонар!

Сёння можам сказаць і гэтыя словы...

Аўтарскаму калектыву ў складзе архітэктараў Ю.Градава, В. Занковіча, Л. Левіна і скульптара — народнага мастака БССР С. Селіханава прысуджана Ленінская прэмія 1970 года ў галіне архітэктуры.

Гэтая Ленінская прэмія, якой упершыню ўзнагароджаны беларускія архітэктары і мастакі, сведчыць аб усесаюзным прызнанні нашага манументальнага мастацтва, аб тым высокім узроўні, на якім яно знаходзіцца, аб усенароднай пашане да народа-змагара, не зломленага цяжарам пакут, народа, які выстаяў і перамог варожую навалу.

Ад імя ўсіх чытачоў нашай газеты віншуем аўтараў мемарыялу ў Хатыні з высокай узнагародай.



Ю. ГРАДАЎ.



В. ЗАНКОВІЧ.



Л. ЛЕВІН.



С. СЕЛІХАНАЎ.

# Планета, краіна, рэспубліка святкуюць...

## МАСКВА

100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна савецкі народ, народы сацыялістычных краін, міжнародны рабочы клас, усе працоўныя свету адзначылі як баявы агляд сваіх сіл.

З пачуццём велізарнага гонару за ўсё дасягнутае пад вялікім ленінскім сцягам сабраліся 21—22 красавіка ў Крамлі ўдзельнікі сумеснага ўрачыстага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.

У пасяджэнні прынялі ўдзел члены і кандыдаты ў члены ЦК КПСС, члены Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС, дэпутаты Вярхоўных Саветаў СССР і РСФСР. У зале прысутнічалі прадстаўнікі грамадскасці і працоўных Масквы і Маскоўскай вобласці, воіны Савецкай Арміі і Ваенна-Марского Флоту, дзеячы навукі, літаратуры і мастацтва, кіраўнікі міністэрстваў, ведамстваў і цэнтральных устаноў, грамадскіх арганізацый.

На пасяджэнні прысутнічалі таксама партыйна-ўрадавыя дэлегацыі сацыялістычных краін, дэлегацыі камуністычных і рабочых партый капіталістычных дзяржаў і дзяржаў, якія сталі на шлях развіцця, нацыянальна-дэмакратычных партый і арганізацый і лева-сацыялістычных партый, прафсаюзных і іншых прагрэсіўных міжнародных арганізацый.

Бурнымі, доўга не змаўкаючымі апладысментамі, стоячы, сустрэлі прысутныя паяўленне ў прэзідыуме таварышаў Л. Брэжнева, Г. Воранава, А. Касыгіна, А. Кірыленкі, К. Мазурава, М. Падгорнага, Д. Палянскага, А. Пельшэ, М. Суслава, А. Шалепіна, П. Шэлеста, Ю. Андропава, В. Грышына, П. Дземічава, Д. Кунаева, П. Машэрава, В. Мжаванадзе, Ш. Рашыдава, Д. Усцінава, У. Шчарбіцкага, І. Капітонава, К. Катушава, Кулакова, Б. Панамарова, М. Саломенцава.

Урачыстае пасяджэнне ўступным словам адкрыў член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Падгорны. Ён сказаў:

— Мы ганарымся тым, што Ленін нарадзіўся і вырас на нашай зямлі, што ён—вялікі сын Расіі ,што наша краіна—Радзіма ленінізма. Разам з тым, Ленін стаў правадыром усіх працоўных свету; ход гістарычнага развіцця неабвержна пацвярджае, што ленінізм — вучэнне глыбока інтэрнацыянальнае, сусветна-гістарычнае.

Таварыш Падгорны ад імя ўсіх савецкіх людзей горача вітае ўдзельнікаў урачыстага пасяджэння, шматлікіх замежных гасцей.

Слова для даклада «Справа Леніна жыве і перамагае» даецца Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Леаніду Ільічу Брэжневу.

— У нашы дні,—сказаў Л. І. Брэжнеў,— калі ўвесь ход грамадскага развіцця няўмольна наближае крушэнне капіталізму, з асаблівай сілай гучаць словы Леніна аб тым, што марксізм ставіць пытанні «не ў сэнсе аднаго толькі тлумачэння мінулага, але і ў сэнсе. бязбоязнага прадбачання будучага і смелай практычнай дзейнасці, накіраванай на яго ажыццяўленне».

Выстаўляючы перад народамі свету велічную перспектыву камуністычнай будучыні, адзіна рэальную і адпавядаючую карэнным інтарэсам усіх народаў, марксісты-ленінцы не схільны спрашчаць задачы, якія ўзнікаюць у сувязі з гэтым. Шлях да камунізма—гэта шлях працяглай і ўпартай барацьбы.

Даклад таварыша Л. Брэжнева быў выслуханы з велізарнай увагай. Заключныя словы даклада сустракаюцца бурнай працяглай авацыяй.

Удзельнікаў юбілейнага ўрачыстага пасяджэння віталі прадстаўнікі старой ленінскай гвардыі, рабочага класа і калгаснага сялянства, воіны, камсамольцы, піянеры.

Удзельнікі пасяджэння горача сустрэлі выступленні гасцей—Першага сакратара Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзіслава Гамулкі, Першага сакратара Цэнтральнага Камітэта Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі, Старшыні Дзяржаўнага савета Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Вальтэра Ульбрыхта, Першага сакратара Цэнтральнага Камітэта Партыі працоўных В'етнама Ле Зуана, члена Палітбюро ЦК Французскай камуністычнай партыі Жака Дзюкло, Першага сакратара Цэнтральнага Камітэта камуністычнай партыі Чэхаславакіі Густава Гусака, Першага сакратара Цэнтральнага Камітэта Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі Яноша Кадара, Першага сакратара ЦК Балгарскай камуністычнай партыі, Старшыні Савета Міністраў Народнай Рэспублікі Балгарыі Тодара Жыўкава і іншых прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый.

Члены дэлегацый камуністычных і рабочых партый сацыялістычных краін, якія знаходзяцца ў Маскве на святкаванні 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, наведалі Маўзалей У. І. Леніна і ўсклалі вянкі—даніну глыбокай павагі стваральніку Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, заснавальніку першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, правадыру і настаўніку міжнароднага рабочага класа, усіх працоўных.

22-га красавіка, ў апошні дзень работы ўрачыстага пасяджэння, вячэрняе неба Масквы азарылі рознакаляровыя агні святочнага феерверку.

Ленінскія юбілейныя ўрачыстасці ідуць па ўсіх гарадах і вёсках нашай неабсяжнай краіны.



Масква, Крамлёўскі палац з'ездаў, 21 красавіка 1970 г.

## МІНСК

У святочным вясновым убранні сталіца нашай ардэнаноснай рэспублікі. Усюды палымнеюць чырвоныя сцягі, маляўнічыя транспаранты, партрэты дарагога Ільіча.

...Ля ўваходу ў мінскі Палац спорту на флагштоках развяваюцца дзяржаўныя флагі Савецкага Саюза і Беларускай ССР. Сюды 18 красавіка на ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна сабраліся ветэраны Ленінскай партыі, удзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, члены ўрада, дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, прадстаўнікі партыйных і савецкіх арганізацый, наватары прамысловасці і перадавікі сельскай гаспадаркі, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы, дзеячы культуры, літаратуры і мастацтва, замежныя госці.

Ад імя Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета рэспублікі, ад імя ўсіх удзельнікаў урачыстага пасяджэння кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў горача і сардэчна павітаў прысутных.

Урачыста гучаць Дзяржаўныя гімны Савецкага Саюза і Беларускай ССР. Пад бурныя апладысменты шматтысячнай залы выбіраецца ганаровы прэзідыум у складзе Палітбюро Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Старшыня пасяджэння—Старшыня Вярхоўнага Савета БССР народны паэт Беларусі Я. Скурко (Максім Танк) дае слова для даклада аб 100-годдзі з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна кандыдату ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першаму сакратару ЦК КПБ П. Машэраву.

Даклад П. Машэрава быў выслуханы з вялікай увагай і неаднаразова перапыняўся апладысментамі.

Удзельнікаў урачыстага пасяджэння віталі старыя камуністы-ленінцы, прадстаўнікі рабочага класа, калгаснага сялянства, савецкай інтэлігенцыі. Прэзідэнт Акадэміі навук БССР М. Барысевіч уручае прэзідыуму ўрачыстага пасяджэння рапарт ад работнікаў навукі, літаратуры і мастацтва рэспублікі.

... Гучаць фанфары. У залу ўваходзяць прадстаўнікі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, камсамольцы і піянеры. Яны даюць клятву на вернасць запаветам вялікага Леніна, заяўляюць аб гатоўнасці дастойна працягваць справу старэйшых пакаленняў, быць актыўнымі будаўнікамі камунізма.

Ад пагранічнага Буга да берагоў Масквы-ракі пракацілася магутная святочная хваля. Ва ўсіх гарадах і раёнах рэспублікі адбыліся юбілейныя ленінскія ўрачыстасці.

У сталіцы нашай краіны — Маскве дэлегацыя Беларускай ССР усклала вянок да Маўзалея Уладзіміра Ільіча Леніна з надпісам: «Вялікаму У. І. Леніну ад беларускага народа».

Пасля наведвання Маўзалея пасланцы Савецкай Беларусі пабывалі ля Крамлёўскай сцяны, дзе пахаваны прах вядомых партыйных і дзяржаўных дзеячоў—паплечнікаў Ільіча. У гэты час кожны з іх ад імя беларускага народа яшчэ раз пакляўся жыць і працаваць па-ленінску.

22 красавіка па цэнтральнай магістралі Мінска—Ленінскім праспекце прайшла мнагалюдная маніфестацыя працоўных нашай сталіцы, а на плошчы імя Леніна, ля помніка правадыру адбыўся шматтысячны мітынг у гонар 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча.

На вуліцах, плошчах, у парках і скверах былі наладжаны святочныя гулянні. А калі над Мінскам апусціўся вечар, у веснавым небе ярка ўспыхнулі агні феерверкаў.



Мінск, Палац спорту, 18 красавіка 1970 г.

**Жыццё Леніна — усё без астатку, яго барацьба, яго дзейнасць былі аддадзены адной справе — справе вызвалення працы ад прыгнёту капіталу. З імем Леніна, натхніцеля і арганізатара Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, звязан карэнны паварот у гісторыі чалавецтва — паварот ад капіталізму да сацыялізма.**

**Настолькі велізарны быў маштаб думкі і дзеянняў Леніна, настолькі глыбока здолеў ён зразумець і выказаць наспеўшыя патрэбнасці сваёй эпохі, што і цяпер ленінскія ідэі з'яўляюцца магутнай зброяй у руках барацьбітоў за шчасце народаў. Няма такога кутка на зямным шары, дзе імя Леніна не гучала б як палымяны заклік да барацьбы з прыгнётам, бяспраўем, эксплуатацыяй, як сімвал баявога адзінства, як залог перамогі ў гістарычнай бітве за трыумф камуністычных ідэалаў.**

*З даклада таварыша Л. І. Брэжнева на сумесным урачыстым пасяджэнні ЦК КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР 21 красавіка 1970 года, прысвечаным стагоддзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна.*

# ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

# ПРЭЗІДЫУМУ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

# САВЕТУ МІНІСТРАЎ САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

Мы, удзельнікі ўрачыстага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі, Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, сабраўшыся разам з прадстаўнікамі партыйных і савецкіх органаў, працоўных Мінска і Мінскай вобласці, каб адзначыць вялікае свята — 100-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, ад імя камуністаў, усяго беларускага народа шлём Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР і Савецкаму ўраду самыя гарачыя віншаванні, выказваем пачуцці ўдзячнасці і глыбокай павагі.

Да Леніна — геніяльнага мысліцеля і непахіснага рэвалюцыянера, стваральніка бальшавіцкай партыі і заснавальніка першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян, звернуты нашы думкі, позіркі і сэрцы, нашы светлыя спадзяванні. З імем Леніна, з ленінізмам звязаны самыя выдатныя здзяйсненні XX стагоддзя — Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя — першая пераможная рэвалюцыя пралетарыяту, пабудова сацыялізма ў СССР, утварэнне сусветнай сацыялістычнай садружнасці народаў, вялікія бітвы і перамогі сіл сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення ва ўсім свеце.

Беларускі народ бязмежна шчаслівы, што з Леніным у сэрцы, разам з усімі працоўнымі нашай шматнацыянальнай Радзімы, пад кіраўніцтвам партыі камуністаў узняўся на пераможны штурм старога свету, будаваў новае грамадства, адстойваў яго ў жорсткіх бітвах з ворагамі, і цяпер, у брацкім адзінстве з народамі СССР будуе светлы будынак камунізма. У сузор'і свабодных савецкіх рэспублік, спаяных вузамі пралетарскага інтэрнацыяналізму і непарушнай дружбы, Беларусь за гады Савецкай улады прайшла шлях, роўны стагоддзям. З краю нястачы і гора, бяспраўя і невуцтва яна ператварылася ў працвітаючую індустрыяльную сацыялістычную рэспубліку з сучаснай высокамеханізаванай сельскай гаспадаркай. На небывалую вышыню ўзняліся беларуская навука, літаратура і мастацтва.

Найвялікшым трыумфам ленінізма і прадметам нашай асаблівай гордасці стаў народжаны ў навальніцах Вялікага Кастрычніка, у бітвах за сацыялізм, у баях Вялікай Айчыннай вайны новы савецкі чалавек — свядомы, актыўны будаўнік камуністычнага грамадства, патрыёт і інтэрнацыяналіст.

Беларускі народ глыбока перакананы, што ўсімі сваімі дасягненнямі, матэрыяльнымі і духоўнымі дабротамі ён абавязан роднаму Ільічу, створанай і выпеставанай ім Камуністычнай партыі, якая ўпэўнена вядзе краіну выпрабаваным ленінскім курсам. Жыццёвасць і неперажнасць ленінізма, правільнасць выбранага шляху выверана гісторыяй, бліскуча пацверджана слаўнымі перамогамі савецкага народа ў будаўніцтве сацыялізма і камунізма, у абароне рэвалюцыйных заваёў.

Мы рады далажыць роднай партыі, ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР і Савецкаму ўраду, што беларускі народ паспяхова выканаў павышаныя юбілейныя сацыялістычныя абавязацельствы. Зроблен буйны крок у эканамічным развіцці рэспублікі.

За чатыры гады пяцігодкі вытворчасць прамысловай прадукцыі ў Беларусі ўзрасла на 60 працэнтаў, што перавышае планавыя заданні. Прадукцыйнасць працы павялічылася на 29 працэнтаў. У мінулым, перадюбілейным годзе датэрмінова — 26 снежня выканан план рэалізацыі прамысловай прадукцыі. Звыш задання выпушчана на сотні мільёнаў рублёў разнастайных вырабаў. У вытворчасць укаранёна 300 аўтаматычных, паўаўтаматычных і механізаваных паточных ліній. Створана больш як 100 комплексна-механізаваных участкаў і цэхаў.

Будаўнікі рэспублікі дабіліся высокіх тэмпаў уводу ў дзеянне асноўных фондаў. Толькі за апошні час у строй уступілі Трэці Салігорскі калійны камбінат, буйныя вытворчасці на Магілёўскім камбінаце сінтэтычнага валакна, Полацкім хімкамбінаце, першая чарга Лукомльскай ДРЭС і дзесяткі іншых важных прамысловых аб'ектаў.

Выдатнымі працоўнымі здзяйсненнямі азнаменавалі калектывы прадпрыемстваў, будоўляў, транспарту пачатак юбілейнага года. У першым квартале ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года выпуск прамысловай прадукцыі павялічыўся на 11,3 працэнта, асваенне капіталаўкладанняў — на 23 працэнты. Больш як 45 тысяч рабочых завяршылі свае асабістыя пяцігодкі. Ёсць усе падставы лічыць, што абавязацельства — завяршыць пяцігадовы план па аб'ёму прамысловай вытворчасці да 7-га лістапада г. г., будзе паспяхова выканана.

З гонарам нясуць ленінскую працоўную вахту работнікі сельскай гаспадаркі. За мінулыя гады пяцігодкі валавая прадукцыя калгасна-саўгаснай вытворчасці павялічылася на 41 працэнт, прадукцыйнасць працы — на 44 працэнты. Асабліва радуюць дасягнутыя першыя добрыя вынікі ў барацьбе за ўздым ураджайнасці збожжавых культур — атрымана па 16 цэнтнераў з гектара. У грамадскай жывёлагадоўлі на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў атрымана па 68 цэнтнераў мяса і 325 цэнтнераў малака. Павялічыліся пастаўкі ва ўсесаюзны фонд. У першым квартале гэтага года дзяржаве прададзена мяса на 11 працэнтаў і малака — на 7 працэнтаў больш, чым за той жа перыяд мінулага года. Працаўнікі вёскі замацоўваюць і развіваюць дасягнутыя поспехі і ўдарнай работай закладваюць асновы далейшага ўздыму ўсіх галін сельскай гаспадаркі.

Самаадданая праца савецкіх людзей служыць крыніцай няўхільнага росту жыццёвага ўзроўню народа. Сярэдняя заработная плата рабочых і служачых ужо ў мінулым годзе перавысіла планавыя заданні на канец пяцігодкі. Павялічыліся выплаты і льготы з грамадскіх фондаў спажывання. Хутка расце жылы фонд гарадоў і вёсак.

Усё, што створана і заваявана намаганнямі партыі і народа, — надзейная аснова вырашэння новых, яшчэ больш велічных задач камуністычнага будаўніцтва.

Ва ўрачыстыя дні ленінскага юбілею камуністы, усе працоўныя Савецкай Беларусі запэўніваюць Цэнтральны Камітэт КПСС, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў СССР у тым, што яны і надалей будуць высока несці ленінскі сцяг, свята выконваць запаветы Ільіча, берагчы і памнажаць вялікія заваёвы Кастрычніка.

Рабочы клас, сялянства, інтэлігенцыя рэспублікі поўныя рашучасці разам з усімі працоўнымі нашай вялікай сацыялістычнай дзяржавы нястомна мацаваць эканамічную і абаронную магутнасць Краіны Саветаў, усямерна развіваць навуку і культуру, берагчы, як святыню, ленінскую дружбу савецкіх народаў, умацоўваць інтэрнацыянальную салідарнасць з працоўнымі сацыялістычных краін, з міжнародным рабочым класам, з працоўнымі ўсяго свету, якія змагаюцца за дэмакратыю і нацыянальнае вызваленне.

Мы памятаем мудрае ўказанне Ільіча не супакойвацца на дасягнутым, сканцэнтроўваць увагу на нявырашаных праблемах. Намаганні нашага народа сканцэнтраваны цяпер на хутчэйшым ажыццяўленні рашэнняў XXIII з'езда партыі, снежаньскага (1969 г.) Пленума ЦК КПСС, на датэрміновым завяршэнні пяцігадовага плана.

У адказ на заклік партыі на прадпрыемствах і будоўлях, у калгасах і саўгасах разгарнулася барацьба за павышэнне тэмпаў навукова-тэхнічнага прагрэсу, эфектыўнасці вытворчасці, за ўздым прадукцыйнасці працы, эканомію і ашчаднасць.

Мы нястомна будзем працаваць, каб хутчэй ажыццявіць мару Ільіча — пабудаваць камунізм. Гэта будзе лепшы помнік вялікаму Леніну.

Няхай жывуць у вяках справа і імя Леніна!

Слава ленінскай партыі камуністаў — арганізатару ўсіх нашых перамог!

# АБ ПРЫСУДЖЭННІ ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЙ У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ 1970 года

Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР, разгледзеўшы прапанову Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры пры Савеце Міністраў СССР, пастанавілі прысудзіць Ленінскія прэміі 1970 года:

### У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ

1. **Гуляму** Гафуру (Гулямаву Гафуру Гулямавічу), народнаму паэту Узбекістана (пасмяротна), — за вершы апошніх гадоў.

2. **Ціханаву** Мікалаю Сямёнавічу, Герою Сацыялістычнай Працы, пісьменніку, — за кнігу «Шэсць калон».

### У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЎЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

3. **Зыкінай** Людміле Георгіеўне, народнай артыстцы РСФСР, — за канцэртныя праграмы «Песні савецкіх кампазітараў», «Табе, жанчына!», «Старадаўнія рускія народныя песні».

4. **Эрнесаксу** Густаву Густававічу, народнаму артысту СССР, мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага акадэмічнага мужчынскага хору Эстонскай ССР, — за канцэртныя праграмы 1967—1968 і 1968 — 1969 гг.

### У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧЫХ МАСТАЦТВАЎ

5. **Асарысу** Гунарсу Канстанцінавічу, архітэктару, **Букоўскаму** Льву Уладзіміравічу, скульптару, **Закаменнаму** Алегу Мікалаевічу, архітэктару (пасмяротна), **Зарыню** Яну Пятровічу, скульптару, **Остэнбергу** Олгертсу Індрыкавічу, архітэктару, **Скарайну** Алегу Юльевічу, скульптару, **Страўтману** Івару Арвідавічу, архітэктару, — за мемарыяльны ансамбль памяці ахвяр фашысцкага тэрору ў Саласпілсе.

6. **Вучэцічу** Яўгеку Віктаоавічу, Герою Сацыялістычнай Працы, народнаму мастаку СССР, скульптару, кіраўніку аўтарскага калектыву, аўтару праекта, **Белапольскаму** Якаву Барысавічу, заслужанаму будаўніку РСФСР, архітэктару, аўтару праекта, **Дзёміну** Веніяміну Аляксеевічу, архітэктару, **Матросаву** Уладзіміру Яўгенавічу, скульптару, **Новікаву** Анатолю Сямёнавічу, скульптару, **Цюранкову** Аляксандру Аляксеевічу, скульптару, — за помнік-ансамбль героям Сталінградскай бітвы ў Волгаградзе.

### У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА

7. **Грыгаровічу** Юрыю Мікалаевічу, народнаму артысту РСФСР, балетмайстру, **Вірсаладзе** Сіману Багратавічу, народнаму мастаку РСФСР і Грузінскай ССР, мастаку, **Раждзественскаму** Генадзю Мікалаевічу, народнаму артысту РСФСР, дырыжору, **Васільеву** Уладзіміру Віктаравічу, народнаму артысту РСФСР, **Лаўроўскаму** Міхаілу Леанідавічу, заслужанаму артысту РСФСР, — выканаўцам ролі Спартака, **Ліепе** Марысу-Рудольфу Эдуардавічу, народнаму артысту РСФСР і Латвійскай ССР, — выканаўцу ролі Краса, — за балетны спектакль «Спартак» у Дзяржаўчым акадэмічным Вялікім тэатры Саюза ССР.

### У ГАЛІНЕ АРХІТЭКТУРЫ

8. **Градаву** Юрыю Міхайлавічу, архітэктару, **Занковічу** Валянціну Паўлавічу, архітэктару, **Левіну** Леаніду Мендэлевічу, архітэктару, **Селіханаву** Сяргею Іванавічу, народнаму мастаку БССР, скульптару, — за мемарыяльны комплекс «Хатынь».

### ЗА ТВОРЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

9. **Міхалкову** Сяргею Уладзіміравічу, заслужанаму дзеячу мастацтваў РСФСР, пісьменніку,—за паэтычныя творы апошніх гадоў для дзяцей малодшага ўзросту.

# СЭРЦЫ І СПРАВЫ — ПРАВАДЫРУ

## УРАЧЫСТЫ СХОД БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Як і ўсе савецкія людзі, з вялікай радасцю, з велізарным творчым уздымам сустракалі слаўны ленінскі юбілей беларускія пісьменнікі. 20 красавіка яны сабраліся на ўрачысты сход,

Урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, адкрывае сакратар партыйнага бюро СП БССР А. Кулакоўскі. Ён прадастаўляе слова для даклада народнаму пісьменніку Беларусі, акадэміку Міхасю Лынькову.

— У кожнага народа,—гаворыць М. Лынькоў, — ёсць словы, якія ўвасабляюць самае дарагое, самае любімае, самае запаветнае для людзей, такія словы, як маці, Радзіма, свабода, жыццё, мір. Але ёсць у сучасным свеце слова, якое як магніт прыцягвае да сябе думкі людзей, іх пачуцці і мары. Гэтае слова — Ленін. Яно не патрабуе перакладу, яно зразумела на ўсіх мовах і ўсім народам. Сёння на ўсёй зямлі не знойдзеш чалавека, які не ведаў бы, хто і што стаіць за гэтым словам, як не знойдзеш чалавека, які не адрозніў бы палымнеючай чырвані баявых сцягоў рэвалюцыі ад іншых колераў.

М. Лынькоў расказаў пра Леніна як пра стваральніка Беларускай савецкай дзяржавы, яе сацыялістычнай культуры і літаратуры, як пра стваральніка слаўнай Камуністычнай партыі.

— Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, — падкрэсліў прамоўца, — сваім існаваннем, сваімі поспехамі і перамогамі абавязана вялікаму Леніну. Наш народ, яго інтэлігенцыя, заўсёды з Леніным. Гэтае імя прысутнічае не толькі ў шматлікіх пісьменніцкіх творах, але і шырока адлюстравана ў паданнях, легендах, народным фальклоры, у нашых думках і справах.

Пасля даклада першы сакратар Ленінскага РК КПБ Мінска М. Дубавец ад імя і па даручэнні абласнога і гарадскога камітэтаў партыі, выканкомаў абласнога і гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных уручыў вялікай групе пісьменнікаў і супрацоўнікаў газет і часопісаў СП БССР юбілейныя ленінскія медалі «За доблесную працу».

Сярод узнагароджаных — пісьменнікі М. Лынькоў, А. Куляшоў, І. Гурскі, В. Вольскі, У. Карпаў, А. Васілевіч, М. Машара, С. Грахоўскі, А. Маўзон, А. Кулакоўскі, А. Міронаў, М. Паслядовіч і іншыя — усяго больш чым 40 чалавек. Ад імя ўзнагароджаных С. Шушкевіч горача падзякаваў партыі і ўраду за гэты гонар.

— Медаль з сілуэтам дарагога Ільіча, — сказаў ён, — будзе нам заўсёды напамінаць аб нашым неаплатным даўгу перад бессмяротнымі справамі і жыццём вялікага Леніна.

Затым М. Аўрамчык, А. Зарыцкі, Э. Агняцвет, А. Бачыла, А. Вялюгін, Е. Лось, Р. Барадулін, П. Прыходзька прачыталі свае вершы, прысвечаныя Ільічу.

У заключэнне вечара яго ўдзельнікі прагледзелі новы кінафільм «Крамлёўскія куранты».

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



У Беларускім тэатры оперы і балета — прэм'ера новай нацыянальнай оперы.

Прататыпам героя оперы «Андрэй Касценя» М. Аладава з'яўляецца славуты герой партызанскага руху Канстанцін Заслонаў. Лібрэта, напісанае Пятром Глебкам, і музыка твора раскрываюць багацце гэтай яркай натуры, даюць абагулены вобраз змагара-патрыёта. Рэжысёры спектакля — заслужаныя артысты БССР А. Маралёў і Ю. Ужанцаў, дырыжыруе операй заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР К. Ціханаў, дэкаратыўнае афармленне народнага мастака БССР Я. Чамадурава. На здымку — сцэна са спектакля: народная артыстка рэспублікі Т. Шымко (Тася) і артыст Ю. Бастрыкаў (Андрэй Касценя).



«Трэцяя патэтычная» — спектакль коласаўцаў, якім тэатр у горадзе над Дзвіной закончыў работу над увасабленнем пагодзінскай трылогіі аб Леніне (падрабязна газета «Літара і мастацтва» пісала аб гэтым у нумары за 3/IV г.г.). Спектакль паставіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі ў дэкарацыях, зробленых па эскізах народнага мастака рэспублікі Я. Нікалаева. Пераклаў п'есу на беларускую мову Алесь Кучар. На здымку — Ленін, ролю якога выконвае народны артыст БССР Ф. Шмакаў, гутарыць з камуністам Іпалітам Сестрарэцкім (заслужаны артыст БССР У. Куляшоў).



Фелікс Дзяржынскі... Чалавек, з якога юнацтва вучыцца «жыццё рабіць». Ён — герой п'есы «Юнацтва рыцара», назва якой сведчыць аб тым, што драматург В. Зуб і тэатр паспрабавалі асэнсаваць у мастацкіх вобразах характар юнага Фелікса. Паставіў спектакль на тюгаўскай сцэне Б. Ганага ў дэкарацыях, зробленых па эскізах мастака Б. Герлавана, з музыкай заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Я. Глебава. На здымку вы бачыце артыстаў У. Баклейчава (справа) у ролі Фелікса і В. Мельнікава — Антэка.

# НА БІБЛІЯТЭЧНЫХ СТЭНДАХ

Цікавыя выстаўкі фотакопій дакументаў «Ленін і Беларусь» і «Першыя выданні і першыя публікацыі твораў У. І. Леніна» экспануюцца зараз у Мінскай бібліятэцы імя Горкага.

З хваляваннем разглядаеш шматлікія пажоўклыя старонкі невялікіх брашурак і кніг. Гэта — першыя выданні прац Ільіча, якія выйшлі ў свет у 1902, 1904, 1906, 1917 гадах. Як не падобныя гэтыя выданні на сённяшнія выданні твораў правадыра. Але гэтыя сціплыя кнігі ўзрушылі свет, адкрылі нашаму народу дарогу да новага жыцця.

З незвычайнай цікавасцю знаёмішся з фотадакументамі, якія расказваюць аб ленінскай увазе да нашай Беларусі. Пастановы, пісьмы, тэлеграмы, запіскі... І на гэтыя клопаты беларускі народ адказваў любоўю і адданасцю.

«Рабочая моладзь паліграфвытворчасці г. Мінска, сабраўшыся 20 сакавіка ў ліку больш 200 чалавек на ўрачысты вечар, прысвечаны двухгадоваму юбілею ячэйкі КСМБ пры першай Савецкай друкарні, шле вам, дарагі правадыр, сваё гарачае прывітанне і жадае вам хутчэйшага выздараўлення, каб вы маглі працягваць далей сваю работу на карысць працоўных усяго свету». Гэтае пісьмо маладых рабочых было надрукавана ў «Звяздзе» 23 сакавіка 1923 года. Тут жа экспануецца фотакопія артыкула «Не да слёз!». Аўтар артыкула Вера Харужая глыбока смуткуе з прычыны смерці Уладзіміра Ільіча, але заклікае не плакаць, а працаваць, працягваць пачатую Леніным справу.

# ЛЕПШЫМ!

Падведзены вынікі конкурсу на лепшы кніжны магазін па прапагандзе, рэкламе і распаўсюджанні твораў У. І. Леніна і іншай грамадска-палітычнай літаратуры.

Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку, БРК прафсаюзаў работнікаў культуры і Беларускае рэспубліканскае праўленне навукова-тэхнічнага таварыства паліграфіі і выдавецтваў прызналі пераможцамі конкурсу калектывы Мінскага магазіна «Палітычная кніга», якому прысуджана першая прэмія, Цэнтральнага кніжнага магазіна Мінскага аблкнігагандлю (другая прэмія) і кнігарні «Палітычная кніга» Гродзенскага аблкнігагандлю (трэцяя прэмія).

Адначасова гэтыя магазіны ўзнагароджаны Ганаровай граматай Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку і БРК прафсаюза работнікаў культуры.

Ганаровай граматай таксама ўзнагароджана 19 работнікаў кніжнага гандлю рэспублікі. Пяць грамадскіх распаўсюджвальнікаў ленінскай літаратуры атрымаюць значок «Прапагандыст кнігі».

# ДАПАМОЖНІК, ПАТРЭБНЫ КОЖНАМУ

Кожнага зацікавіць выданне, дзе можна пазнаёміцца з матэрыяламі, якія раскажуць пра сувязь У. І. Леніна з Беларуссю. Такі бібліяграфічны паказальнік падрыхтаваны Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ і Мінскай бібліятэкай імя М. Горкага. Склалі яго Н. Кароткіна і С. Цлаф, навуковая рэдакцыя У. Беляўцава.

«Зараз вядома, — гаворыцца ў прадмове гэтага бібліяграфічнага выдання, — каля 150 выказванняў, тэлеграм, запісак і пісем правадыра, у якіх адлюстраваны важнейшыя моманты гісторыі беларускага народа: яго барацьба за сваю будучыню, узнікненне і развіццё бальшавіцкіх арганізацый у краі, станаўленне і ўмацаванне Савецкай улады ў рэспубліцы». Гэтыя дакументы — яркае сведчанне той вялікай дапамогі, якую аказваў Уладзімір Ільіч беларускаму народу.

Бібліяграфічны паказальнік «У. І. Ленін пра Беларусь» — першая спроба сабраць і сістэматызаваць ленінскія дакументы, звязаныя з Беларуссю. Бібліяграфія складзена на аснове прагляду Поўнага збору твораў У. І. Леніна (5-е выданне), Ленінскіх зборнікаў, Збору ўзаконенняў і пастаноў рабоча-сялянскага ўрада РСФСР за 1917—1922 гг., зборнікаў «Дэкрэты Савецкай улады».

Чытач знойдзе ў паказальніку дакументы і пастановы, падпісаныя У. І. Леніным, якія звязаны з Беларуссю, Паўночна-Заходнім (Заходнім) краем царскай Расіі і заходнім фронтам у гады грамадзянскай вайны.

Дакументы згрупаваны ў трох раздзелах: дакументы дакастрычніцкага часу, савецкага перыяду і дакументы, у якіх упамінаецца Беларусь. Гэта бібліяграфічнае выданне мае алфавітны, геаграфічны і прадметны паказальнікі.

**Конкурс-агляд мастацкай самадзейнасці 100**

# ЗАКЛЮЧНЫ АКОРД

Песня... У вуснах народа яна захапляе часам не так майстэрствам выканання, сцэнічнасцю, дакладнасцю, як шчырасцю пачуцця, непасрэднасцю, вялікім духоўным напаўненнем.

Канцэрт, якім закончыўся рэспубліканскі конкурс мастацкай самадзейнасці, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, яшчэ раз гэта паказаў.

Натуральна, што праз увесь канцэрт прайшла тэма Леніна, Кастрычніка, Камуністычнай партыі. Гучала музыка, якую любіў Ільіч, песні, у якіх народ наш апявае яго жыццё, магутнасць розуму, мудрасць. Мастацкае слова і харэаграфічныя малюнкі расказвалі аб радасці жыць і працаваць пад сцягам бессмяротных ленінскіх ідэй.

«Мой Ленін». Гэта назва верша, аўтарам і выканаўцам якога быў М. Саўчанка, настаўнік з Хоцімскага раёна. І не толькі назва. Мой Ленін—гэта аўтарскае пачуццё, якім верш асветлены знутры. Гэтае ж пачуццё сагрэла і песню «Ой ты, Волга» ў выкананні харавых капэл з Магілёва, Брэста і Віцебска, і вакальна-харэаграфічную кампазіцыю «Запаветам Леніна верныя» ў выкананні салдацкага ансамбля песні і танца ЧБВА, і сольнае выкананне Г. Качалавай з Гродна песні «Леніна памятае зямля», і фінал канцэрта, у якім выступілі многія харавыя калектывы Беларусі—спявалася песня А. Новікава «Радзіма, Ленін, партыя».

Вёска заўсёды была найбольш ашчаднай ахоўніцай старадаўняй народнай песні, стваральніцай самабытнага масавага мастацтва. У гэтых адносінах вельмі цікавы жаночы хор ветэранаў працы калгаса «Чырвоны Кастрычнік» з Мсціслаўскага раёна. Праўда, адна-адзіная песня «Даўно я ў мамачкі была», з якой выступіў хор, не дае поўнага ўяўлення аб калектыве. Але і адна песня стала духмянай, палаючай кветкай у песенным букеце канцэрта. Як налітыя чырванню мальвы ў вясковым гародчыку.

Захапіла гледачоў і легенда «Качачка». Яе выканаў танцавальны ансамбль Дома культуры швейнай фабрыкі імя Валадарскага з Магілёва. Тэма кахання, душэўнай чысціні і вернасці, дакладна перададзеная мовою харэаграфіі, прагучала ўзнёсла нават там, дзе была крыху сентыментальнай. Калектыў швейнікаў безумоўна цікавы. І не хочацца, каб гэтае выступленне яго было маланкай, што ярка бліснуць, але хутка гасне. З гэтай жа думкай—каб не апошні раз на рэспубліканскай сцэне—слухаеш і прывабны, сакавіты голас салісткі народнага хору Брэсцкага абласнога савета прафсаюзаў Н. Срамук у «Кнопачках баянных», і многае іншае, таленавітае і арыгінальнае, што выйшла на вялікую сцэну ўпершыню.

Шкада толькі, што на заключным канцэрце і на конкурсных канцэртах у абласцях, якія праходзілі раней, мы не ўбачылі сёлета многіх калектываў і выканаўцаў, якія так хвалявалі і радавалі нас у ранейшыя гады, у такім багацці неслі да людзей узоры мастацтва сапраўды народнага, самадзейнага.

Сапраўднае мастацтва не можа задавольвацца векам матылька. Яно павінна жыць доўга, шчасліва, як жывуць многія старэйшыя калектывы рэспублікі. Як жыве, хаця б, цымбальны аркестр калгаса «Рассвет» Пастаўскага раёна, што і на гэтым канцэрце па-майстэрску выканаў «Беларускую польку».

На канцэрце прысутнічалі П. М. Машэраў, С. О. Прытыцкі, Ц. Я. Кісялёў, Ф. А. Сурганаў, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, І. Я. Палякоў, М. Н. Полазаў, члены ЦК КПБ, дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, прадстаўнікі грамадскасці Мінска і абласцей рэспублікі.

В. ФІЛІМОНАЎ.





Паспяхова выступілі на заключным канцэрце мастацкія калектывы Магілёва. Тэмпераментна, велічна гучалі «Песні рэвалюцыі» ў выкананні аркестра народных інструментаў гарадскога Дома культуры (здымак справа) і зусім у іншым плане, лірычна і душэўна—танцавалі ў харэаграфічнай легендзе «Качачка» швачкі фабрыкі імя Валадарскага (здымак злева).



«Кнопачкі баянныя»... Як мара дзяўчыны, як трапяткая радасць і першае каханне прагучалі яны ў выкананні маладой салісткі народнага хору Брэсцкага аблсаўпрофа Н. Срамук.



Выкладчык Салігорскага горна-хімічнага тэхнікума В. Корзун чытае верш П. Броўкі «Беларусь». Узнёсла, прывітальнай песняй зямлі і людзям, гучаць у яго выкананні словы і думкі паэта.



І колішні сум, і цяперашняе разуменне гэтага суму, і радасць за сённяшні шчаслівы лёс жанчыны данеслі мсціслаўскія калгасніцы з сельгасарцелі «Чырвоны Кастрычнік» у беларускай народнай песні «Даўно я ў мамачкі была».

Фота Ул. КРУКА.

# АДРАС ЧАЦВЁРТАГА ЎСЕСАЮЗНАГА—МІНСК

Усесаюзныя агляды кінамастацтва сталі традыцыяй. З 1964 года яны праводзяцца рэгулярна раз у два гады. Іх мэта — павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню фільмаў, стымуляванне творчага спаборніцтва дзеячоў кінамастацтва, прыцягненне ўвагі гледачоў да лепшых твораў айчыннай кінематаграфіі.

— Фестываль пераконвае, што ў цэнтры ўвагі работнікаў кіно стаіць чалавек з усім багаццем, з усёй складанасцю душы і гамай пачуццяў, перажыванняў, думак, — сказаў старшыня журы конкурсу мастацкіх фільмаў на Трэцім усесаюзным фестывалі ў Ленінградзе народны артыст СССР Марк Данскі.

Гэтыя словы праслаўленага майстра савецкага кінематографа можна смела паставіць эпіграфам і да IV Усесаюзнага кінафестывалю, які праз некалькі тыдняў адкрыецца ў Мінску.

Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» сустрэўся з генеральным дырэктарам Усесаюзнага кінафестывалю, намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі П. Жукоўскім. Вось што ён расказаў:

— Чацвёрты ўсесаюзны кінафестываль будзе праводзіцца ў беларускай сталіцы з 13 па 22 мая. У яго праграме — лепшыя творы савецкага кіно 1968—1970 гадоў. Сярод іх «Я—Францыск Скарына» («Беларусьфільм»), «Вясковы дэтэктыў» (студыя імя Горкага), «Браты Сараян» («Арменфільм»), «Аповесць пра чэкіста» (Адэская студыя), «Бабскае царства» («Масфільм»), «Я памятаю цябе, настаўнік» («Азербайджанфільм»), «Гэта імгненне» («Малдовафільм»), «Мёртвы сезон» («Ленфільм») і «Джура Саркор» («Таджыкфільм»). Назвы астатніх фільмаў стануць вядомы ў бліжэйшы час.

На конкурс мультыплікацыйных стужак прадстаўлены «Пісьмо», «Балерына на караблі», «Малыш і Карлсан», «Бабульчын парасон» (усе «Саюзмультфільм»), «Асёл, селядзец і мятла» («Талінфільм») і іншыя.

Адкрыццё і закрыццё фестывалю адбудзецца ў зале Мінскага Палаца спорту. Конкурсныя прагляды мастацкіх і мультыплікацыйных фільмаў будуць праходзіць у рэспубліканскім Палацы прафсаюзаў, а дакументальных і навукова-папулярных— у Доме работнікаў мастацтваў. Гледачы пазнаёмяцца і з пазаконкурснымі навінкамі кінамастацтва. Сярод іх—шырокафарматныя фільмы «Чайкоўскі», «Дырэктар» і «Вугал падзення» («Ленфільм»).

У Мінск прыедуць майстры экрана і творчая моладзь з усіх саюзных рэспублік і замежныя госці.

Для савецкіх і зарубежных журналістаў будзе арганізаваны прэсцэнтр. На час кінафестывалю наладжваецца штодзённы выпуск газеты «Кинонеделя Минска».

Распрацавана вялікая праграма сустрэч кінематаграфістаў з гледачамі Мінска і вобласці — не толькі ў сталічных кінатэатрах, а і ў калгасах, на будоўлях, заводах і фабрыках, у воінскіх часцях. На Цэнтральнай плошчы сталіцы на вялікім кінаэкране будуць дэманстравацца творы кінадакументалістаў саюзных рэспублік. У фае Палаца культуры прафсаюзаў адкрыецца фотавыстаўка, прысвечаная савецкай кінематаграфіі апошніх гадоў.

Аматараў кінамастацтва, асабліва заўзятых збіральнікаў аўтографаў, вядома, цікавіць, хто з «кіназорак» прыедзе на фестываль. Назаву імёны савецкіх артыстаў — А. Баталаў, В. Мяркур'еў, М. Рыбнікаў, Зоя і Вікторыя Фёдаравы, Л. Смірнова, Ул. Дружнікаў, Н. Румянцава, Л. Шагалава і іншыя. Чакаем і акцёраў замежнага фільма.

Фестываль вынясе на шырокі суд гледачоў і патрабавальнага журы лепшыя творы кінематографа апошніх гадоў, дасць магчымасць убачыць характэрныя тэндэнцыі развіцця гэтага мастацтва, прадэманструе рост прафесіянальнага майстэрства ветэранаў і маладых дзеячоў ва ўсіх жанрах. Удзельнікаў гэтай падзеі асабліва хвалюе тое, што агляд самага важнага і самага масавага мастацтва адбудзецца ў юбілейны ленінскі год.

# РАЗВІТАЛЬНАЕ СЛОВА

Калісьці мы пачыналі разам з ім творчы шлях у тэатры пад кіраўніцтвам Уладзіслава Галубка. Аляксей Бараноўскі быў сярод нас, акцёраў Вандроўнага тэатра, бадай, самы гарачы энтузіяст — ён працаваў над ролямі самаааддана. Яго прыклад быў першым і самым, магчыма, непасрэдным для нас, галубкоўцаў, прыкладам таго, што няма ў нашым мастацтве маленькіх роляў, што кожны выхад на сцэну, нават у эпізодзе без слоў — творчы акт, які вымагае ад артыста духоўнай аддачы да рэшты. Алёша мог іграць у спектаклі і тры, і пяць эпізодаў, пераапранаючыся, і перагрыміроўваючыся, я сказаў бы, з асалодай мастака, адоранага вялікім даверам тэатра. І не толькі пераапранаў гарнітуры, мяняў бароды і насы, а і пераўвасабляўся ў новыя характары.

Пазней мы разам з ім перайшлі ў трупу Першага БДТ, у калектыў купалаўцаў, і тут ён адразу ж стаў добрым партнёрам выдатных майстроў лепшай у Беларусі сцэны. Некаторыя яго эпізоды былі маленькімі шэдэўрамі і выклікалі дружныя апладысменты залы (варта, скажам, прыгадаць яго ў «Рамэа і Джульецe»). Я ж помню, якім багатым на адценні быў і такі значны вобраз, створаны А. Бараноўскім у драме М. Пагодзіна «Мой друг», як двурушнік Ёлкін. А якім сакавітым і па-народнаму шчодрым у пачуццях быў наш калега ў «Партызанах» К. Крапівы (стары Бадыль)!

У апошні час Алёша быў на пенсіі і здымаўся ў кіно. Але ён жыў нашым тэатрам і радаваўся нашым удачам і балюча перажываў нашы беды. Мы ж, аглядаючы зробленае тэатрам, заўжды з добрай удзячнасцю называем і будзем называць і яго імя, імя чалавека, які аддаў роднаму мастацтву свой талент і сваё сэрца. Не забудзе яго і глядач.

Ул. ДЗЯДЗЮШКА,
народны артыст БССР.

Міністэрства культуры БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці заслужанага артыста БССР Бараноўскага А. А. і выказвае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.

Калектыў Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы смуткуе з прычыны заўчаснай смерці заслужанага артыста БССР Бараноўскага Аляксея Аляксандравіча і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.

Калектыў Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы выказвае глыбокае спачуванне народнаму артысту БССР С. С. Бірылу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю жонкі Лідскай Зінаіды Якаўлеўны.

Міх. СОНКІН.

# ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ВЫМОВЫ

*СТАРОНКА ЛЕНІНСКАЙ БІЯГРАФІІ*

—Вы АБОДВА добранькія, клапатлівыя... Не, міленькія! Вы законаадступнікі. А за сваявольнасць трэба адказваць. Так, таварышы, ад-каз-ваць!

Ленін падышоў да акна.

Па тым, як Уладзімір Ільіч стаяў ля акна — спіной да Гарбунова, як трымаў галаву, як дыхаў, як заклаў за спіну рукі, сакратар Саўнаркома ўгадваў: прымірэння не будзе. І магчыма, упершыню за час знаёмства з Леніным не ведаў, што ж рабіць, як паводзіць сябе, як даслухаць гэтыя рэзкія словы.

Гарбуноў сядзеў ля стала, трымаў на каленях скураную папку з паперамі (ён прыйшоў да Леніна на даклад) і ўсё паглядваў на тую злашчасную ведамасць, з якой усё пачалося.

У канцы красавіка 1918 года ў Саўнаркоме плацілі жалаванне за сакавік. Уладзіміру Ільічу падрыхтавалі грошы ў канверце. Гарбуноў, ідучы на даклад, узяў з сабой і канверт і ведамасць, каб даць Леніну распісацца. Тут Уладзімір Ільіч і выявіў, што супраць яго прозвішча замест звычайнай сумы ў пяцьсот рублёў стаіць «1 000».

— Гэта на якой жа падставе? — запытаўся Ленін.

— У месячны аклад, Уладзімір Ільіч, уключаны дзвесце рублёў пад'ёмных, — растлумачыў Гарбуноў. І нагадаў, што ў пачатку сакавіка, калі Саўнарком пераязджаў з Петраграда ў Маскву, быў выдадзены дэкрэт, па якім дзяржаўным служачым, што пераязджалі ў новую сталіцу, выплачвалася дадаткова да месячнага акладу яшчэ па дзвесце рублёў.

— Памятаю, правільна, — пацвердзіў Ленін. — І вось — дзвесце пад'ёмных, плюс пяцьсот жалавання, усяго семсот. А адкуль узяліся яшчэ трыста?

— Уладзімір Ільіч, аклады наркомам устанаўліваліся яшчэ ў першыя тыдні пасля Кастрычніка. З таго часу ўсё падаражэла. Грошы абясцэньваюцца... Вось і даў распараджэнне таварыш Бонч-Бруевіч: дадаць вам трыста рублёў.

— Бонч-Бруевіч? А ён што — «самадзяржаўны правіцель Русі»? Дзяржаўная скарбніца — яго ўласнасць?.. Якая агіднасць! Ды і вы харошы!

— Уладзімір Ільіч, распараджэнні таварыша Бонч-Бруевіча для мяне абавязковыя.

— З Бонч-Бруевічам будзе гаворка асобная. А вы — дэпартаменцкі рэгістратар ці сакратар Саўнаркома?

Ленін устаў з-за стала і захадзіў па кабінеце.

— Вы абавязаны зразумець раз і назаўсёды: законы ў Савецкай Рэспубліцы выдаюць не асабіста Ульянаў-Ленін, не асабіста хто-небудзь з народных камісараў, тым больш не асабіста Бонч-Бруевіч... Каму колькі плаціць, мае права ўстанаўліваць толькі ўрад, толькі Савет Народных Камісараў!

Гарбуноў, збянтэжаны, слухаў, апусціўшы вочы. Але калі глянуў, можна было прачытаць у іх: «Уладзімір Ільіч, усе ведаюць, як вы абмежаваны ў грошах...» Тады і пачуў ён яшчэ больш рэзкае аб «добранькіх», аб законаадступніцтве, аб тым, што за сваявольнасць трэба адказваць.

Разрадка наступіла не адразу.

Гарбуноў ціха сказаў:

— Уладзімір Ільіч, пытанне аб павышэнні жалавання звыш пяцісот рублёў, як мне помніцца, ставілася яшчэ ў Петраградзе. Гэта даўно наспела...

Сказанае Гарбуновым не мяняла сутнасці таго, што выклікала пратэст Леніна.

— Вось што, Мікалай Пятровіч, падайце пісьмовае тлумачэнне: на якой падставе выпісана лішніх трыста рублёў, хто ў гэтым вінаваты, і ўкажыце ўсё, што датычыць абмеркавання пытання ў Саўнаркоме. І, калі ласка, без імправізацый. Толькі факты!

Памякчэўшы, Ленін дадаў:

— Лішнія грошы вярніце ў касу. А цяпер зоймемся справамі.

— Ясна, Уладзімір Ільіч. — Гарбуноў ажывіўся. Самае непрыемнае мінавала. І сакратар паспешліва паклаў перад Леніным паперы, з якімі ён прыйшоў на даклад.

□ □ □

Бухгалтар Саўнаркома быў чалавекам пажылым, пунктуальным, рабіў сваю справу не спяшаючыся. Ён ведаў, што ніколі не памыляецца. Асабліва, калі гэта датычыць грошай. І раптам Гарбуноў прынёс ад Леніна трыста рублёў і сказаў:

— Гэтыя грошы лішнія. Апрыходуйце іх.

— Як лішнія?

Гарбуноў расказаў, у чым справа, і дадаў:

— Прашу вас пісьмова пацвердзіць, якія выплаты ўключаны ў жалаванне таварышу Леніну за сакавік.

У той жа дзень, 27 красавіка 1918 года, Гарбуноў атрымаў даведку:

**«Сакратару Савета Народных Камісараў.**

*Жалаванне Старшыні Савета Народных Камісараў У. І. Леніну выпісвалася ўвесь час 500 рублёў у месяц. За сакавік жа было выпісана 200 рублёў пад'ёмных на агульнай падставе, а жалаванне 800 рублёў, згодна з загадам (асабістым) Упраўляючага справамі Савета Народных Камісараў».*

Унізе стаяў подпіс бухгалтара.

Гарбуноў прачытаў паперку двойчы. Так, кожнае слова ўзважана і ўсё апраўдана. Пад'ёмныя выплачаны «на агульнай падставе». А павышаны аклад «згодна з загадам Упраўляючага справамі Савета Народных Камісараў». Для дакладнасці ў дужках агаворана: маўляў, дакумента пісьмовага ад таварыша Бонч-Бруевіча няма, але было распараджэнне вуснае, асабістае.

Тое і яно, што **асабістае.**

Гарбуноў задумаўся. Паказаць бухгалтарскую даведку Уладзіміру Ільічу? Не, гэтага мала. Мікалай Пятровіч дастаў пратаколы пасяджэнняў Саўнаркома. Калі ж упершыню ўстанаўлівалася, колькі плаціць членам урада? І што было пастаноўлена? І што было потым?

Сярод дадаткаў да пратаколаў за лістапад семнаццатага года Гарбуноў убачыў лісток з яго, сакратара, паметкай: «Напісана Ульянавым 18/XI на пасяджэнні СНК...»

Мікалаю Пятровічу ўспомнілася, як усё гэта было...

Петраград, Смольны. Першыя дэкрэты Савецкай улады. Усё нова, усё незвычайна! Устанаўліваецца тое, што павінна адрозніваць Дзяржаву Камуны ад усіх іншых, якія існуюць на свеце. Сярод гэтых дэкрэтаў быў і той, які вызначыў аклады ўтрымання членам урада. Праект напісаў сам Уладзімір Ільіч—некалькі пунктаў. Першы гаварыў:

*«...Прыступіць да (рэвалюцыйных) самых энергічных мер у мэтах паніжэння жалавання вышэйшым служачым і чыноўнікам ва ўсіх без выключэння дзяржаўных, грамадскіх і прыватных установах і прадпрыемствах».*

Гэта было важна для таго, каб да канца зламаць старую дзяржаўную машыну і пабудаваць новую, на новым фундаменце.

Жрацы чыноўніцкага Алімпа склалі на Русі асобую касту вышэйшай бюракратыі. Цары не шкадавалі народных грошай, каб карміць, песціць, узнагароджваць сваю апору. Гэта захавалася і пры Керанскім. Улетку 1917 года адзін генерал (ваенны або цывільны) атрымліваў амаль у трыццаць разоў больш, чым, напрыклад, народны настаўнік. Дзяржава Камуны не магла з гэтым мірыцца. І Ленін прапанаваў: абмежаваць непамерна высокія аклады ўсім без выключэння служачым. Тады ж Уладзімір Ільіч прапанаваў: «Прызначыць найбольшыя аклады Народным Камісарам па 500 рублёў у месяц бяздзетным і надбаўку ў (75) 100 рублёў на кожнае дзіця».

Саўнарком падтрымаў Леніна і прыняў дэкрэт у яго рэдакцыі. Былі зроблены толькі некаторыя ўдакладненні. У пункце аб заработнай плаце народным камісарам гаварылася, што пяцьсот рублёў выплачваецца ў месяц не проста «бяздзетным», а «бессямейным». Прыбаўка ў сто рублёў належыць не на «кожнае дзіця», а на «кожнага непрацаздольнага члена сям'і».

23 лістапада дэкрэт з'явіўся ў газетах. Гарбуноў успомніў, як многа гаварылі тады аб гэтым рашэнні ўрада. Члены Савета Народных Камісараў, камуністы першымі падаюць прыклад і публічна гавораць: галоўнае для нас—служэнне вялікай справе Камуны, працоўнаму народу. А грошай нам трэба толькі столькі, колькі складае сярэдні пражытковы мінімум.

Дарэчы, іменна гэты мінімум лёг у аснову вылічэння жалавання наркомам. ЦВК Саветаў яшчэ ўлетку 1917 года вызначыў, што сярэдні пражытковы мінімум для аднаго чалавека ў месяц складае 400 рублёў. Такі аклад і прызначылі тады членам ЦВК. К восені жыццё падаражэла. Ленін палічыў магчымым павялічыць аклады наркомам да 500 рублёў. Так, Уладзіміру Ільічу, побач з іншымі наркомамі, было прызначана месячнае жалаванне ў пяцьсот рублёў. Дзяцей у Леніна не было, усе члены сям'і—працаздольныя. Таму надбаўка яму не выплачвалася.

...Гарбуноў працягваў чытаць пратаколы Саўнаркома. Вось зноў абмяркоўваецца пытанне аб заработнай плаце. На гэты раз—настаўнікам. Нарком асветы Анатолій Васільевіч Луначарскі дакладвае, што становішча настаўніцтва цяжкае. Цэны на прадукты ў лістападзе зноў падскочылі. Патрэбна дапамога неадкладная. І ў студзені 1918 года Саўнарком вырашае: прызначыць настаўнікам народных школ надбаўку ў сто рублёў.

А вось запыт другога члена ўрада. Як быць з аплатай служачых заводаўпраўленняў? І наогул старых спецыялістаў, вучоных, інжынераў? Без іх Рэспубліцы не абысціся. Інакш—поўны развал гаспадаркі. Сваіх, савецкіх спецыялістаў, яшчэ няма. А старыя, буржуазныя, за пяцьсот рублёў працаваць не хочуць. І дарэмна пераконваць іх: «Цяпер улада народа, цяпер будзе Дзяржава Камуны...» Вучоныя, знаўцы прамысловасці ва ўсіх краінах аплачваюцца высока. І гэта акупляецца вынікамі іх працы. Трэба нешта вырашаць. І вось у дадатках да саўнаркомаўскага пратакола—лісток, спісаны дробным ленінскім почыркам:

*«...Пацвердзіць, што дэкрэт аб 500 рублях месячнага акладу членам Савета Народных Камісараў азначае ПРЫБЛІЗНУЮ НОРМУ вышэйшых акладаў, забароны плаціць спецыялістам больш не змяшчае... Напомніць, што ў дэкрэце СНК ёсць патрабаванне прымаць рэвалюцыйныя меры для зніжэння непамерна высокіх акладаў»*

Спецыялістам можна і трэба плаціць—па іх працы! Такая думка Леніна. І гэта становіцца дэкрэтам (2 студзеня 1918 года).

З канца студзеня сярод пытанняў, якія ўносяцца на пасяджэнні Саўнаркома, з'яўляецца пункт, які прапануецца старшынёй УЦВК Якавам Міхайлавічам Свярдловым: «Аб павелічэнні акладаў народным камісарам». Але кожны раз абмеркаванне пераносіцца.

Гарбунову ўспомнілася, як гэта адбывалася:

— Пачакаем, таварышы, пацерпім,—гаварыў Уладзімір Ільіч, і рашэнне не прымалася.

Тое ж паўтарылася ў лютым. Потым пачалося наступленне германскіх войск на Петраград; у небяспецы аказалася сама Бацькаўшчына Кастрычніка. Урад быў па горла заняты ваеннымі справамі, перагаворамі ў Брэсце. Пасля гэтага—пераезд Саўнаркома ў Маскву, Усерасійскі надзвычайны з'езд Саветаў, ратыфікацыя мірнага дагавору з Германіяй... Адкрылася новая паласа ў гісторыі Рэспублікі, і Леніна апанавалі новыя клопаты, ён стаў рыхтаваць вялікі артыкул «Чарговыя задачы Савецкай улады»—аб тым, як перайсці на рэйкі мірнага будаўніцтва, што цяпер важней за ўсё закласці фундамент сацыялізма. Гарбуноў бачыў, як, працуючы над артыкулам, Уладзімір Ільіч заседжваўся па начах у сваім крамлёўскім кабінеце. Толькі ўчора ён закончыў рукапіс і даў перадрукаваць на машынцы. Атрымалася цэлая брашура. Яна ўжо адпраўлена ў рэдакцыі «Правды» і «Известий». Заўтра пачнуць друкаваць.

Так пытанне, пастаўленае Свярдловым, да гэтага часу не вырашана. Ці не таму Уладзімір Дзмітрыевіч Бонч-Бруевіч палічыў магчымым асабіста нешта зрабіць, хоць бы часткова вырашыць даўно наспелае?

Гарбуноў мог цяпер падаць падрабязны даклад па ўсіх пунктах, запатрабаваных Леніным. Між радкоў паказаць, што віна Бонч-Бруевіча, як разумее ён, Гарбуноў, зрэшты, не віна. Яго—таксама. Але Мікалай Пятровіч ведаў, як не церпіць Уладзімір Ільіч шматслоўных даведак. Таму прадставіў тое, што напісаў саўнаркомаўскі бухгалтар, а яшчэ ад сябе асабіста:

**«Старшыні Савета Народных Камісараў**

*Пытанне аб павелічэнні акладаў Народным Камісарам было ўнесена ў Савет Народных Камісараў у канцы студзеня 1918 года старшынёй ЦВК тав. Свярдловым. Да 26-га лютага ўключна гэта пытанне сістэматычна ставілася сакратарыятам на парадак дня, але Саветам Народных Камісараў НІ РАЗУ не абмяркоўвалася. Пасля 26 лютага пытанне гэта было знята з парадку дня і паўторна ў Савет Народных Камісараў да сённяшняга дня нікім ўнесена не было.*

**Сакратар Савета Народных Камісараў М. ГАРБУНОЎ».**

Прайшоў месяц. Наступіла дваццатае—дзень выплаты зарплаты за красавік. Невядома, якую суму цяпер налічваць Уладзіміру Ільічу. Але дакладна вядома, што сакавіцкую «лішку» Ленін не забыў і не дараваў. 23 мая 1918 г. Уладзімір Ільіч напісаў:

**«Упраўляючаму справамі Савета Народных Камісараў Уладзіміру Дзмітрыевічу БОНЧ-БРУЕВІЧУ.**

*З-за невыканання Вамі настойлівага майго патрабавання ўказаць мне падставы для павышэння мне жалавання з 1 сакавіка 1918 г. з 500 да 800 руб. у месяц і з прычыны яўнай беззаконнасці гэтага павышэння, зробленага Вамі самачынна па пагадненні з сакратаром Савета Мікалаем Пятровічам Гарбуновым, у прамое парушэнне дэкрэта Савета Народных Камісараў ад 23 лістапада 1917 года, аб'яўляю Вам суровую вымову.*

**Старшыня Савета Народных Камісараў У. УЛЬЯНАЎ (ЛЕНІН)».**

У той жа дзень такую ж паперу, падпісаную Леніным, атрымаў Гарбуноў: «...Аб'яўляю Вам суровую вымову». За гэта ж —за «імправізацыю», самачыннае дзеянне разам з Упраўляючым справамі Саўнаркома Бонч-Бруевічам.

Да лета грошы яшчэ больш абясцэніліся. Пракарміцца на пяцьсот рублёў было ўжо зусім немагчыма. Народны камісар харчавання Аляксандр Дзмітрыевіч Цюрупа ад недаядання захварэў. (Чалавек, які загадваў харчаваннем цэлай краіны, сам галадаў!)

Уладзімір Ільіч занепакоіўся. Неяк на пасяджэнні Саўнаркома ён паслаў запіску:

*«Тав. Цюрупа! Выгляд хворы. Не трацячы часу, у двухмесячны адпачынак. Калі не абяцаеце дакладна, буду скардзіцца ў ЦК.*

**ЛЕНІН».**

Але — не дапамагло. І тады — новая запіска:

*«Дарагі Аляксандр Дзмітрыевіч. Вы робіцеся зусім нязносным у абыходжанні з казённай маёмасцю.*

*Прадпісанне: тры тыдні лячыцца. І слухацца Лідзію Аляксандраўну, якая вас накіруе ў санаторый.*

*Далібог, недаравальна дарэмна пагарджаць слабым здароўем. Трэба папраўіцца!*

*Прывітанне! Ваш Ленін».*

13 ліпеня Ленін прадпісаў афіцыяльна:

*«Наркому тав. Цюрупе прадпісваецца выехаць для адпачынку і лячэння ў Кунцава ў санаторый.*

**Старшыня СНК У. Ульянаў (Ленін)».**

Прыклад з Цюрупам прымусіў Леніна «здацца»—пытанне, даўно ўнесенае Свярдловым, было абмеркавана 16 ліпеня. Толькі цяпер Уладзімір Ільіч прагаласаваў за рашэнне Саўнаркома—павялічыць аклады членам ўрада.

Хутка прыйшоў час, калі грошы мала што значылі. Сапраўдную каштоўнасць мелі фунт хлеба, конаўка малака, вязанка дроў...

У рэспубліцы былі ўведзены прадуктовыя картачкі. Уладзімір Ільіч Ленін стаў атрымліваць картачку першай катэгорыі. Пазней былі ўстаноўлены і другой—вышэйшай (для вучоных і інш.). З тых дзён захавалася пасведчанне, напісанае Уладзімірам Дзмітрыевічам Бонч-Бруевічам:

*«Упраўленне справамі Савета Народных Камісараў гэтым сведчыць, што Уладзімір Ільіч Ленін (Ульянаў), старшыня Савета Народных Камісараў, з'яўляецца адказным работнікам у Савеце, займаецца ўзмоцненай разумовай працай і працue неабмежаваную колькасць гадзін. Таму Упраўленне справамі Савета Народных Камісараў знаходзіць патрэбным перавесці Уладзіміра Ільіча Леніна на другую катэгорыю для атрымання прадуктовых картачак.*

**Упраўляючы справамі Саўнаркома Ул. Бонч-Бруевіч».**

Памятаючы красавіцкі ўрок 1918 года, Уладзімір Дзмітрыевіч цяпер абгрунтаваў сваё рашэнне дакладна па законе, устаноўленым урадам: каму належыць выдаваць картачкі вышэйшай катэгорыі. Абгрунтаваў так, каб Ленін не мог пярэчыць. І па самай справе, хіба не быў Уладзімір Ільіч самым адказным работнікам у Савеце? Хіба не займаўся ён узмоцненай разумовай працай? Хіба не працаваў ён неабмежаваную колькасць гадзін? Па ўсіх пунктах яму належала картачка другой, вышэйшай катэгорыі!

г. Ленінград.

**Джэк ЛІНДСЕЙ**

## ЛЕНІН У ЛОНДАНЕ

Сціхае гул падземных цягнікоў.
Дамы і вуліцы — усё ў тумане.
Марудным поступам, як плынь вякоў,
Праходзяць год за годам у выгнанні.

У лёгкім паліто-дэмісезон,
(Настаўлены каўнерык з крэп-вельвету)
З падземкі ў сырасць Сіці выбег ён
І на хаду паглыбіўся ў газету.

Ад ліхтароў няяркае святло,
Ашчадная асветленасць вітрыны.
Ды з дому вестак доўга не было,
А тут хоць друк чужы, ды ўсё ж — навіны.

Наўкол віруе рух, плыве натоўп
Спаважна, плаўна, хоць і дождж палошча,
Імперыя і там яшчэ, як стоўп[1]
На гэтай люднай Трафальгарскай плошчы.

На выгляд, мабыць, так, але не больш,
Бо ўжо знутры — як толькі грунт трывае! —
Штуршкамі б'юць народны гнеў і боль,
І Ленін гэта добра адчувае.

Ён праз вякі глядзіць, і з непагоды
Празорліваму позірку відны
Вакол яго з'яднаныя народы—
Яго Расіі верныя сыны.

Яднанне гэтае яшчэ тады
Прадбачыў ён у схованых вытоках,
Як люд працоўны ход сваёй хады
Прымерваць будзе па ягоных кроках.

І паднявольны свет услед за ім
Узняў, як факелы, сцягі свабоды.
І веру я: над Лонданам маім
Туман развеецца — і назаўсёды!

З англійскай пераклаў Язэп СЕМЯЖОН.

[1] Стоўп — высокая гранітная калона з бронзавай статуяй лорда Нэльсана, адмірала і флатаводца, на Трафальгарскай плошчы ў Сіці — цэнтры Лондана.

**Канстанты І. ГАЛЧЫНСКІ**

## ПЕРАД МАЎЗАЛЕЕМ ЛЕНІНА

Урачысты той дзень бачу зноў я і зноў,
Для мяне будзе ён векапомным.
Вецер люта часаў кроны ліп і дубоў,
І ляжаў снег на плошчы Чырвонай.
Помню:
Сонца на небе цямнела тады,
Дзень зімовы згасаў за прадмесцем,
Калі, стомлены доўгай вандроўкай, сюды
К Маўзалею дайшоў я нарэшце.

Колькі ж трэба яшчэ труб і жаласных нот!
Тут ляжыць...—мне шчымліва да болю,
Той, хто цэнтр зямлі перасунуў на ўсход
Сілаю пралетарскай волі.

Прысягаю:
не буду ніколі слабым,
Буду сеяць наўкола праменні!
Вось ён, наш новы век,— а ўсяго два склады:
ЛЕНІН.

Пераклаў з польскай мовы К. ПАЎТАРЖЫЦКІ.

*ВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ*

**Ігар КАРШАКЕВІЧ**

# ...І ГРЫМНУЎ БОЙ

**Ігар Каршакевіч—удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Журналіст. Пошукамі невядомых герояў вайны пачаў займацца з 1956 года. У 1967 годзе ўзнагароджаны старшынёй Цэнтральнага штаба Усесаюзнага паходу камсамольцаў і моладзі па месцах рэвалюцыйнай баявой і працоўнай славы савецкага народа Маршалам Савецкага Саюза І. С. Коневым памятным медалем за актыўны ўдзел у гэтым усесаюзным паходзе.**

**Сёння мы друкуем яго новы артыкул «І грымнуў бой...» пра невядомых герояў Вялікай Айчыннай...**



А Б ТЫМ, што тут, на поўдзень ад Баранавіч, ля самай абочыны Брэсцкай шашы ў першыя навальнічныя дні вайны прагрымеў небывалы па жорсткасці бой кучкі савецкіх артылерыстаў-процітанкістаў і пехацінцаў з фашысцкай танкавай калонай, я чуў ад жыхароў вёсак Марынава і Завінне. Але непасрэдных удзельнікаў бою доўга не ўдавалася знайсці.

З самых розных крыніц можна было скласці толькі вельмі агульны малюнак падзей, за якімі стаяла многа людзей, выдатных подзвігаў, здзейсненых байцамі, камандзірамі, палітработнікамі. Хто яны, як склаўся іх лёс?

Некалькі гадоў назад у Ленінградзе я сустрэўся з цікавым чалавекам. Аглядаючы велічны мемарыял на Піскароўскіх могілках, чытаючы выбітыя ў камені страфы, мы разгаварыліся. Гэта быў сівы, каржакаваты мужчына.

— Глядзіш і ажывае мінулае... Нібы ўсё было толькі ўчора,—ціха сказаў мой знаёмы, які аказаўся маёрам запасу Фёдарам Калінавічам Каралёвым.

— ...Не, сам я не абараняў Ленінграда. Першы дзень вайны давялося сустрэць у Беларусі, ля граніцы... Было вельмі цяжка—такая сіла навалілася на нас. Але не пахіснуліся. Колькі было тады подзвігаў... Ведаеце, як біліся кадравікі пад Беластокам, пад Гродна, Слонімам, Ваўкавыскам, Баранавічамі? І што крыўдна, мала пішуць пра першыя дні вайны... Памятаю, у Ваўкавыску 22 і 23 чэрвеня на смерць стаялі дзве зенітна-артылерыйскія батарэі. Збілі два дзесяткі фашысцкіх пікіроўшчыкаў, пакуль не расстралялі ўсе снарады... Пад Слонімам з засады на апошнім паліве вырвалася рота нашых танкаў і за чвэрць гадзіны патрушчыла і здрасавала гітлераўскую механізаваную калону... Каля Гарадзеі проста з эшалона, з чыгуначных платформ артылерысты адбілі танкавую атаку, папалілі і пабілі нямала фашыстаў. А бой на Брэсцкай шашы на поўдзень ад Баранавіч?.. Подзвіг. Гэта ж усё старонкі ў гераічным летапісе Вялікай Айчыннай.

Не, сам Каралёў не ведаў назваў палкоў, якія гераічна змагаліся ля магістралі. Пасля жорсткіх баёў многія часці—дзе ў поўным складзе, дзе асобнымі групамі—прабіваліся на ўсход. З адной з такіх груп ішоў і старэйшы лейтэнант Фёдар Каралёў.

Ад Слоніма павярнулі на паўднёвы ўсход, адкуль чулася кананада. Прабіраючыся лясамі і прасёлкамі, к канцу дня 24 чэрвеня выйшлі да Брэсцкай шашы, але бой ужо перамясціўся на захад.

На ўскраіне вёскі Завінне змучаныя воіны ўбачылі грозную панараму нядаўняга бою. На ўзараным бомбамі полі дагаралі дзесяткі гітлераўскіх танкаў. Асабліва многа іх было ўздоўж самой магістралі ля пакрытай лесам вышыні. Вакол ляжалі на зямлі забітыя немцы і нашы. Абломкі разбітых на пазіцыях 45-міліметровых процітанкавых гармат ля вышыні і 76-міліметровых палкавых гармат у хмызняку каля вёскі без слоў гаварылі аб тым, што тут адбылося.

Вядома байцы Ф. Каралёва, якія спяшаліся да лініі фронту, не маглі высветліць да канца, што ж адбылося ў той дзень каля вышыні, хто былі тыя воіны, што насмерць біліся з ворагам. Вечарам яны адышлі на ўсход і праз некаторы час пад Мінскам злучыліся са сваімі войскамі.

Доўга гераічная быль, такая падобная на легенду, не давала мне спакою. Спробы расшыфраваць яе, устанавіць імёны герояў, канчаліся няўдачай.

Аднойчы мы прыехалі з гісторыкам-краязнаўцам, былым партызанам С. Ларыным у гэтыя месцы, каб яшчэ раз паспрабаваць знайсці якія-небудзь сляды артылерыстаў. Зноў гутарылі з многімі мясцовымі жыхарамі.

Раптам нам пашанцавала. Мы сустрэлі пажылога калгаснага пастуха А. Туроля, які, як аказалася, бачыў агнявыя пазіцыі пасля бою. У яго тады адбілася ад статка некалькі кароў, напалоханых кананадай. Як толькі крыху сціхла, ён пайшоў шукаць іх. Каля могілак наткнуўся на сляды пабоішча: дагаралі танкі, разбітыя гарматы.

— Ніколі не забуду,—успамінае А. Туроль,—што ўбачыў у той чорны дзень... Ля адной, як рэшата прабітай асколкамі гарматы стоўпілася многа немцаў. Яны фатаграфавалі забітых артылерыстаў, забіралі дакументы. Асабліва здзівіў іх адзін малады лейтэнант. Як відаць, ён быў апошні ля гарматы. Так і застыў назаўсёды са снарадам у руках, прыхіліўшыся да гарматнага сашніка... Да гэтага часу бачу перад сабой гэтага чарнявага хлапца.

Расказаўшы, што ведаў, А. Туроль пацікавіўся:

— А вы самі выпадкова не з Украіны, не з Чаркаскай вобласці? Не? А то гадоў дваццаць назад, можа і ўсе пятнаццаць, прыязджаў сюды афіцэр Брыкля Рыгор. Сам ён быў з гэтых артылерыстаў. Нейкім цудам двоім ім давялося ўцалець. І ордэнам яго ўзнагародзілі. Не ведаеце Рыгора?

Пачаўся пошук, паляцелі пісьмы на Украіну. І вось яны, доўгачаканыя пісьмы з далёкага украінскага сяла Дахнаўка ад аднаго з удзельнікаў няроўнага паядынку. Вось першае:

«...Так, я быў камандзірам агнявога ўзвода 2-й батарэі 129 асобнага дывізіёна процітанкавых гармат. Разам з маімі дарагімі сябрамі—камандзірамі батарэй лейтэнантамі: 1-й—Драгамірскім, 2-й—Сяргеем Панфілавічам Уцешавым, 3-й—Уцяевым; камандзірамі ўзводаў — малодшымі лейтэнантамі: Кірычэнкам, Фёдарам Хаменкам, Іванам Прыпутненкам, Варчэнкам, Вішнеўскім, Яфімскім; байцамі Кулігам, Энапавым, Сільчанкам і многімі іншымі мы прынялі першы бой 24 чэрвеня 1941 года каля вышыні ля Брэсцкай шашы... З намі былі камандзір дывізіёна капітан П. П. Асташчанка, нампаліт старшы палітрук Крачкоў, начальнік штаба Сініцын... Уся наша камсамольская батарэя пад камандаваннем Сяргея Уцешава спаліла і падбіла 14 фашысцкіх танкаў, і амаль уся загінула смерцю храбрых... Мы выканалі загад Радзімы: «стаяць насмерць!» Затрымалі ворага, далі час усім палкам дывізіі разгарнуцца ў баявыя парадкі...

Я станаўлюся на калені перад светлай памяццю загінуўшых герояў 129 дывізіёна 55 стралковай дывізіі. Вечная слава ім! З павагай, былы артылерыст-процітанкіст Брыкля Рыгор Піліпавіч».

З іншых пісьмаў стала вядома, што жывымі з усяго дывізіёна засталіся толькі трое: капітан П. П. Асташчанка, які з узводам кіравання быў на КП ў баку ад агнявых пазіцый, Р. П. Брыкля і баец яго агнявога ўзвода вадзіцель трактара-цягача «Камсамолец» Сільчанка.

Сапраўды, гэтыя двое ўцалелі толькі цудам. Было гэта так. Пасля першай атакі на полі засталося пяць варожых танкаў. Вораг адышоў, але выклікаў авіяцыю. Ад разрываў бомб змяшаліся зямля і неба. Уся першая батарэя, якая была на адкрытым месцы, загінула разам з гарматамі і трактарамі. Наступныя атакі адбівалі ўжо толькі дзве батарэі—усяго восем гармат з прыслугай. Стальныя пачвары з крыжамі на вежах няспынна стралялі з гармат і кулямётаў, на пазіцыях рваліся міны. Адзін за адным падалі забітыя байцы артразлікаў. Ім на змену станавіліся трактарысты, сувязісты, байцы з узвода кіравання. Батарэі мужна змагаліся, спыняючы новыя і новыя атакі. Фашысцкую пяхоту звязалі боем пехацінцы аднаго з батальёнаў 111 стралковага палка, але і іх сілы падыходзілі к канцу...

Выбухі мін літаральна накрылі першую гармату батарэі Уцяшава, а два танкі ўжо зусім побач. Лейтэнант кінуўся да гарматы. Хвіліна—і зноў бухнулі глухія ўдары «саракапяткі». Першы танк загарэўся, але другі з фланга з кулямёта паспеў расстраляць камбата перш чым сам загарэўся ад прамога пападання снарада, выпушчанага суседняй гарматай.

Праз лінію абароны стралковых падраздзяленняў, разбітых танкамі, прарваліся гітлераўскія аўтаматчыкі. Але ўварвацца на пазіцыю дывізіёна, які вёў агонь па танках, не дазволілі палкавыя мінамётчыкі. Яны паставілі дакладны мінамётны загараджальны агонь, і фашысты залеглі... Ля гарматы засталіся двое—камандзір узвода Брыкля і наводчык Куліга. Пакуль малодшы лейтэнант даставаў снарады, наводчык быў забіты напавал. Камандзір стаў да гарматы. Пад рукой толькі два снарады. Пабяжыш па боепрыпасы—танкі будуць ужо тут. Наводзіў дакладна і спакойна, чакаючы, пакуль немец не падставіць свой «бок».

Адна за адной змаўкаюць маленькія гарматы. Каля іх няма нікога жывога. Танкі прасуюць трэцюю батарэю, вось-вось павернуць да другой. А тут у казённіку апошні снарад. Камандзір марудзіць.

— Страляйце, малодшы лейтэнант,—раптам чуе побач з сабой Р. П. Брыкля.—Біце іх, я снарады падам...

Гэта з укрыцця прыпоўз трактарыст Сільчанка, які далажыў, што пакуль цэлы і ён і яго трактар... Страціўшы яшчэ некалькі машын, немцы ўсё ж уварваліся на пазіцыі другой батарэі, душачы і расстрэльваючы ўсё жывое. У канцы бою біла толькі адна гармата Р. П. Брыклі і Сільчанкі. Скончыліся снарады, танк раздушыў і гэту гармату, але артылерысты паспелі адпаўзці ў кусты. Прабраліся ў размяшчэнне трэцяй батарэі, якая ўжо маўчала. Жывых там не было. З адной гарматы яшчэ можна было страляць: танк раздушыў і ўціснуў у зямлю толькі яе сашнікі. Хвіліна—і гармата бранябойнымі ўдарыла па танках. Два ці тры з іх павярнулі назад, каб змяць апошнюю савецкую гармату. Пакуль Брыкля вёў агонь з пашкоджанай гарматы, Сільчанка збіраў снарады, недзе нават падабраў ручны кулямёт і сумку з заражанымі дыскамі. Калі немцы былі ўжо зусім блізка, яны адпаўзлі ад гарматы і прабраліся да свайго добра замаскіраванага трактара, устанавілі на ім кулямёт.

Гітлераўцы рушылі да пераправы праз раку Шчару. Канечне, два змучаныя воіны мелі права ў тых абставінах пакінуць поле бою і лясамі прабірацца да сваіх, але ім было шкада свайго браніраванага цягача. Параіліся і пайшлі на прарыў...

Глуха заракатаў рухавік. І цягач, як танк, на поўным ходзе праз поле, расстрэльваючы фашысцкіх аўтаматчыкаў з кулямёта, памчаўся да моста праз раку.

На ўсходнім беразе Шчары артылерысты 141-га гаўбічна-артылерыйскага палка проста вачам не паверылі, убачыўшы на трактары двух воінаў-процітанкістаў, якія зрабілі большае, чым было ў чалавечых сілах.

У тыя далёкія дні пра мужнасць і адвагу герояў 129-га дывізіёна пісала франтавая газета Заходняга фронту «Красноармейская правда». У той жа карэспандэнцыі гаварылася і пра дзёрзкі прарыў трактара-цягача праз баявыя парадкі гітлераўцаў.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 22 ліпеня 1941 года малодшы лейтэнант Р. П. Брыкля, адзін з герояў бітвы ля безымяннай вышыні каля вёскі Завінне, за адвагу і мужнасць быў узнагароджаны ордэнам баявога Чырвонага Сцяга...

Так знаёмствам з яшчэ адным мужным воінам, артылерыстам легендарнага процітанкавага дывізіёна, закончыўся гэты доўгі, але захапляючы пошук...

Будзеце ехаць у Брэст, прыпыніцеся ля могілак каля вёскі Завінне, ушануйце памяць герояў-артылерыстаў, якія спяць вечным сном ва ўдзячнай ім беларускай зямлі, якую яны абаранялі, не шкадуючы жыцця.

Вёска Завінне — Мінск.

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# ТРЫ РАЗМОВЫ са Стэфаніяй Станютай



ЯЕ ПАРТРЭТ вісіць ля самага ўваходу ў залу купалаўскага тэатра. Неяк міжволі я пачаў сябе лавіць на тым, што праходзячы не магу не заглянуць у яе вочы. І мне здаецца, што ў іх заўсёды—надзея.

Я гэтыя вочы бачыў, калі ў іх палаў страшны, нястрымны гнеў. Бачыў, калі яны выпраменьвалі пяшчоту, біліся ў глухім безвыходным адчаі, усміхаліся. І праз усхваляванасць, уласцівую яе героям у хвіліны сцэнічнага жыцця, прасвечваецца глыбокая, нейкая невыказаная надзея...

■

— Увага! Увага! Трэці званок! Трэці званок!..

У тэатры пачалася штодзённая работа. Адна за адной адчыняюцца дзверы грымёрак.

— От табе маеш! «Каралеўскі бычок» прыходзіцца выкідваць, — разгублена прамармытаў малады хлапец у чорным, элегантным сурдуце, кідаючы толькі пачатую цыгарэту ў сметніцу: будні.

А мяне быццам пранізаў электрычны ток. Мне здаецца, што па ўсю моц грыміць урачыстая музыка. Б'юць барабаны. Звонка пяюць фанфары. Пачаўся мала каму бачны парад. Для мяне — парад акцёраў. А для іх — штодзённы і звыклы выхад на сцэну, на свой баявы плацдарм.

Ідуць тыя, хто сёння павінен стаць і пражыць жыццё Юліі Тугінай, Флора Прыбыткова, Вадзіма Дульчына. Таропка бягуць з сурвэткамі афіцыянты, разносчыкі вестак, наглядальнікі, лакеі.

А вось і яна...

З наклееным носам. У грыме, які пакуль што, пры звычайным святле, здаецца, і не стасуецца да яе твару. Не, гэта яшчэ не Міхееўна, не ключніца маладой багатай удавы Юліі Тугінай. Ролю Міхееўны выконвае сёння Стэфанія Міхайлаўна Станюта.

**— А цікава, Стэфанія Міхайлаўна, якія ж ролі сталі для вас самымі дарагімі? З якімі б вобразамі вы ніколі не хацелі б разлучацца?** (Не, аб гэтым я спытаўся не цяпер—раней).

— Ну, канечне, з «бабусяй»... і яшчэ... Дыяна! Ну так, Дыяна з камедыі Лопэ дэ Вэга «Дурная для другіх і разумная для сябе». Чаму з гэтай гераіняй не хацелася б ніколі расставацца? Можа таму, што яна гнуткая, стройная, гарэзлівая— ад яе так і вее маладосцю. А можа таму, што менавіта тады, іграючы яе, я атрымала званне заслужанай артысткі БССР... Ды і наогул надзвычай смешная і дасціпная камедыя. Яе нам давялося іграць у суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны. Час быў такі, што мы яшчэ і яшчэ раз пераканаліся, як патрэбна людзям мастацтва, тэатр...

У зале пагасла святло. Загучаў музычны ўступ да спектакля.

— Панове! Панове!—чуюцца крыкі на сцэне.— Багатая нявеста аб'явілася!

І я адразу ж убачыў, як «паехала ўніз» яе спіна, як звялі бездапаможныя рукі, як вочы яе зрабіліся амаль невідушчымі. Разумеючы, што зараз адбываецца, я ўвесь «уціскаюся» ў сцяну і заміраю.

Яшчэ і яшчэ раз перачытваючы п'есу А. Астроўскага «Апошняя ахвяра», я штораз дзіўлюся, як многа знойдзена актрысай. Роля Міхееўны на першы погляд «прахадная». Здаецца, каб увогуле выкінуць гэты персанаж з п'есы, нічога асаблівага не здарылася б. Здаецца! Ды такую, якая яна ў Станюты, і не выкінеш, не забудзеш...

У старэнькай ключніцы толькі адзін клопат: сустракаць і выпраўляць гасцей Юліі Тугінай. Але прыгледзьцеся, як святлее яе твар, як уся яна маладзее, калі з'яўляецца ў пакоі яе гаспадыня, або—як гнятлівае прадчуванне нядобрага напаўняе ўсю яе істоту, калі шыкоўна заходзіць у дом Фрол Прыбыткоў. А як вядзе яна свой паядынак з гэтым «па-панску апранутым жабраком», Дзергачовым і як перамагае яна. Кожны жэст, кожнае слова і паўза—усё натуральнае і па-мастацку ўзважанае актрысай і даецца ў неверагодна зайздросным суладдзі. Звярніце ўвагу, як глыбока прадумана і моцна звязаны адносіны Міхееўны да кожнага з гасцей, як яна зусім не стараючыся «смяшыць публіку», выклікае ў людзей шчыры смех, як стрымана іграе яна драматычныя кавалачкі сваёй малюсенькай, «другараднай» ролі з нейкімі там двума ці трыма выхадамі на сцэну.

І вось тут пачынаеш разумець, што акрамя чыста майстэрскага выканання ролі Міхееўны, актрыса напаўняе гэтую ролю глыбокай думкай. Па ходу спектакля ўсё больш і больш пераконваешся, што зусім не дурная гэтая бабулька, якой яна, бывае, іншы раз прыкідваецца. Яна ўсё бачыць. Усё па-свойму ацэньвае і прадчувае, што можа адбыцца ў гэтым доме. І калі наступае фінал (маладая, прыгожая Юлія Тугіна ідзе пад вянец з Флорам Прыбытковым) амаль да долу сагнутая спіна Міхееўны, яе сухія спрацаваныя рукі моўчкі і ў той жа час на ўвесь свет нема крычаць, бунтуюць, абвінавачваюць.

Міхееўна—прадстаўнік народа. І яна судзіць гэты страшны свет, дзе можна купіць і прадаць нават самае дзівоснае—розум, душу, сумленне.

Закончылася сцэна Міхееўны з Глафірай. Яна выходзіць за кулісы яшчэ нікога не заўважаючы, яшчэ ва ўладзе вобраза, шпарка праходжваецца, робіць некалькі лёгкіх узмахаў рукамі і перада мною зноў—Станюта.

**— А што вы думаеце пра моладзь купалаўскага тэатра?**

— Вы бачылі, як цудоўна Лілія Давідовіч іграе Юлію Тугіну? Я радуюся, шчыра за яе радуюся. Радуюся нават не столькі таму, што яна добра іграе — таленавітая актрыса зноў атрымала добрую ролю.

Мне было 18 гадоў, а я іграла Псіхею з п'есы Д. Жулаўскага «Эрас і Псіхея». Бывалі моманты, што ад напружання ў мяне кроў носам ішла, а іграць усё-такі было прыемна, бо ўнутраны свет маёй гераіні быў неабсяжны і хацелася, ой, як хацелася стаць хоць крышачку вартай той ролі...

А калі я гляджу, як некаторым нашым маладым даводзіцца вышукваць або нават прыдумляць гэты ўнутраны свет літаратурных герояў, мне становіцца крыху крыўдна...

Усяго некалькі разоў сустрэўшыся са Станютай, я не мог не пахваліцца ўсім сваім знаёмым, што ведаю гэтую жанчыну, што яна пры кожнай сустрэчы ўсё больш і больш паланяе мяне сваёй абаяльнасцю, унутранай прыгажосцю, чуллівасцю. Ёсць у ёй нешта, што бывае ўласціва толькі сапраўды таленавітым натурам. Пра такіх кажуць: мастак боскай міласцю...

— Дзівак! Не ты першы захапіўся ёю. Яна прыгожая...

Гады са тры таму назад студэнт універсітэта расказваў мне, што Стэфанія Міхайлаўна сябравала з яго аднакурсніцай. І вось гэтая дзяўчына ад'язджала на цаліну. Цягнік адыходзіў позна—а трэцяй гадзіне ночы. Я ўяўляю, як здзівіліся сябры студэнткі, калі на пероне з букетам кветак убачылі... Станюту.

Тады я не паверыў...

У часопісе «Октябрь» надрукаваны раман У. Кочатава «Чаго ж ты хочаш?», і Стэфанія Міхайлаўна просіць усіх знаёмых, каб хоць хто-небудзь даў і ёй пачытаць гэтыя тры нумары часопіса.

— Усе абмяркоўваюць, спрачаюцца, і я хачу мець сваю думку наконт рамана.

Нядаўна выйшла з друку новая кніжка Янкі Скрыгана «Кругі».

— Яшчэ не паспела прачытаць, але абавязкова прачытаю. Ну што вы, я вельмі люблю гэтага аўтара!..

Яе амаль немагчыма застаць дома. У Стэфаніі Міхайлаўны тысячы спраў, сотні сяброў, якіх яна павінна неадкладна праведаць, дзесяткі дзелавых і прыватных сустрэч...

— Звaніце мне раніцой. І званіце не пазней 8—9 гадзін, а то мы з вамі так і не сустрэнемся.

Дарэчы, з ёю вельмі прыемна гаварыць па тэлефоне. Што б у яе ні было, якія б клопаты яе ні адольвалі, усё роўна гучыць бадзёры, малады голас.

— Ал-ё-ё?—(трошкі зухавата).—Хто, хто? А-а-а-а! Стары знаёмы! Добры дзень!—(Яна доўга цягне сваё «а-а-а» і мне чамусьці заўсёды хочацца, каб яно цягнулася яшчэ даўжэй, бо гэтае «а-а-а» адразу ж сцірае і нерашучасць, і хваляванне, якімі поўніўся перш чым набраць нумар).

**— Скажыце, калі ласка, праца з якімі артыстамі была для вас сапраўдным задавальненнем? Хто з вашых партнёраў найболей дарагі вам?**

— Глебаў і Платонаў.—Яна з хвілінку маўчыць, а затым дадае:—Артыст таксама жывы чалавек. Кожны новы дзень яму прыносіць новыя клопаты, новыя няўдачы, новыя радасці. А не зважаючы ні на што, прыходзіцца штовечар выходзіць на сцэну і быць такім, якім не заўжды хочацца быць. Вы можа заўважылі, як на працу прыходзяць вашы супрацоўнікі. Здаецца, што чалавек гэтак жа ветліва павітаўся, спакойна пайшоў на сваё месца, а прыгледзьцеся і вы заўважыце, што ён зусім не такі, які быў учора. Дык вось, Платонаў і Глебаў умелі заўважаць гэтыя змены і іграць так, каб партнёрам на сцэне не перашкаджала яго радасць, яго бяда...

Нядаўна я наведаў бацькоўскі дом. Скінуўшы паліто, падсеў да цёплай, утульнай грубкі, і даўнія, бясконца дарагія ўспаміны маленства зноў апанавалі мяне. І тут, у маленечкім прыёмніку загучаў яе голас: «Добры вечар, мой маленькі сябра! Перш, чым класціся спаць, паслухай казку пра тое, як...» Яна гаварыла, гаварыла мне і я ўсё больш і больш радаваўся, што яна таксама верыць у гэты дзівосны, казачны, нязмоўклы свет.

**— Як вы ставіцеся да свайго гледача?**

— Не задавайце дзівацкіх пытанняў! Станоўча, канечне... Я яго вельмі люблю, з нецярплівасцю чакаю кожнай новай сустрэчы з ім...

Мы сядзім у грымёрцы. Праз дынамік даносяцца галасы са сцэны. Ідзе другі акт камедыі А. Астроўскага «Апошняя ахвяра».

...Спектакль «Я, бабуся, Іліко і Іларыён», у якім С. Станюта іграе вядучую ролю, я глядзеў разоў дзесяць. І вось аднойчы я вырашыў звадзіць на гэты спектакль сваіх аднакурснікаў— Разміка, Барыса і Рузану, якія прыехалі вучыцца да нас з сонечнай Грузіі. Дык яны пачалі мне даводзіць, што Станюта—грузінка. Я смяяўся, спрабаваў з імі спрачацца, але потым зразумеў, што незвычайнае сэрца гэтай цудоўнай жанчыны і артысткі здольна ўмясціць вялікі і заўжды прывабны свет грузінскай, рускай, беларускай жанчыны. Жанчыны з вялікай літары.

— Каб цябе ў дзіравай труне пахавалі! Каб твае дзеці не паспявалі адзін аднаго на могілкі вазіць!—ушчувае свайго няўрымслівага Зурыкелу бабуся Вольга, а ў зале не зважаючы на такую грозную кляцьбу—рогат.

А потым яна зноў будзе праклінаць. Амаль тымі самымі словамі, толькі ўпаўшы ніцма... Цяпер ужо не смешна. Словы старой бабусі сталі словамі ўсеагульнага, народнага праклёну вайне, фашызму.

Вобраз бабусі Вольгі, створаны Стэфаніяй Станютай, авеяны і гумарам, і драматызмам, і нават трагедыйнасцю. Ён напоўнены магутным філасофскім гучаннем, і несумненна, што ён увайшоў у гісторыю беларускага нацыянальнага тэатра, стаў бліскучай старонкай творчай біяграфіі актрысы...

**— Праца з якімі рэжысёрамі запомнілася вам?**

— Кіраўнікі беларускай тэатральнай студыі ў Маскве Валянцін Смышляеў і Барыс Афонін на ўсё жыццё застануцца ў маёй памяці, як, бадай, адзіныя і сапраўды мае настаўнікі. Ну, зразумела, Рахленка, Літвінаў...

У апошнія гады запомнілася праца з Барысам Эрыным, з чалавекам, які стараўся, каб акцёр не толькі мог нешта на сцэне рабіць, але і разумеў, што і чаму ён робіць...

...О, яна сама, Станюта, заўжды ведае дзеля чаго яе гераіня гаворыць гэтыя словы і чаму яна не можа стрымаць слёз. Хто з нас не помніць мачыху Ганны Чарнушкі са спектакля тэатра імя Я. Купалы па рамане І. Мележа «Людзі на балоце»? Прагнучы «карчоўскага» багацця, яна прадае сваю падчарыцу Яўхіму, здаецца, зусім не задумваючыся над тым, любіць яго Ганна ці не любіць. За бліскучыя хромавыя боты прадае жывога чалавека. А за ўсім гэтым «бытавым» характарам актрыса раскрывае нешта большае— паказвае, як прагнуць людзі сапраўднага чалавечага шчасця, як надакучыла ім баяцца, дрыжаць за свой заўтрашні дзень. Яшчэ раз напамінае, што людзі павінны жыць добра.

У творчай біяграфіі С. Станюты ёсць вобразы дзвюх машыністак—Зёлкінай, сакратаркі Гарлахвацкага з п'есы К. Крапівы «Хто смяецца апошнім», і Піцы Кіцы, сакратаркі дэпутата Фярэкіса з п'есы Дз.Псафаса «Патрабуецца лгун». Кожны з персанажаў выклікае ў зале смех. Але заўважце, як не падобны смех з Піцы Кіцы, якой няма чым ганарыцца акрамя «нястрачанай дзявоцкасці», і адзіная бяда якой тое, што яна за ўсё сваё жыццё не навучылася ілгаць, на смех «прыгажуні Зёлкінай». Актрыса дабіраецца да вытокаў жыццёвай сутнасці камедыйных персанажаў...

Больш за паўсотню самых розных вобразаў стварыла яна на сцэне. «Розных»—тут былі і «анёлы», і «грэшніцы», і непахісныя змагары за шчасце, і звычайныя людзі. А роля, аб якой яна марыць, усё яшчэ не сыграна. Гэта — фру Альвіна з «Прывідаў» Г. Ібсена. І я ні крышачкі, ну, ні крышачкі не сумняваюся, што гэтую ролю яна сыграе. Бо мара такой актрысы, як Стэфанія Станюта, павінна збыцца...

Я бачу, як гараць яе вочы, як уся яна свеціцца нейкім яшчэ дзявоцкім святлом. Так, напэўна, бывае з кожным, хто нясе праз жыццё ў мастацтве малады запал шукальніка праўды—з гэтым яна ішла на сцэну многа гадоў назад і з гэтым пачынае кожны рабочы дзень у тэатры.

Мікола ДЗЯШКЕВІЧ.




В. КАРАМАЗАЎ

Раніші мароз і вецер сушаць паветра, неба, вуліцу, вокны. Сонца бліщчастай луской рассыпаецца па пакоі, адбіваецца тут у кожным шурупе, у мностве інструментаў, якія ўладна запоўнілі хату гармоннага майстра. Сонечны прамень сляпіцаю лезе ў вочы Пятра Рыгоравіча, але ён не хаваецца ад яго, толькі жмурыцца, што кот, ды паблісквае сагрэтымі шчылінамі вачэй.

— Аж мароз па скуры, як успомніш...

Увесь скаланаецца: нялёгка вяртацца ў перажытае.

— А потым, Пётр Рыгоравіч?

— Дзевятнаццатага мая правялі мы разведку боем. Дваццатага, ледзь зашарэла, пачалі артпадрыхтоўку. У сем гадзін занялі чыгуначную станцыю пад Кішынёвам. Затым — вышыню 1031. Не паспелі замацавацца, як немец пачаў нас адтуль выбіваць. Кінуў самалёты, артылерыю. Расшкуматаў нашу батарэю. Засталіся ў жывых Шарганаў, Ермалаеў і я. Усю вайну разам прайшлі. Бывала, сядзеш паміж баямі ў акопчыку пры гармаце і здаецца, быццам недзе гармонь іграе. Па голасе чую, што мая гармонь. А з якой стараны? Можа немец украў у Неглюбцы?.. А гэта ж яна з душы на волю прасілася...

Пётр Рыгоравіч змаўкае, прыжмурвае вочы і глядзіць у акно, быццам шукае там штосьці далёкае і незабыўнае.

— Трэба сустрэцца, — ціха разважае ён. — З Алёшам Шарганавым, Сярожам Ермалаевым. Гармонь на калені паставіць. Сваю. І... эх, урэзаць бы... Тыя дзянёчкі ў душы расшавяліць, успомніць...

З гэтай думкай пра гарачыя дзянёчкі на Яса-Кішынёўскім плацдарме, пра баявых сяброў Пётр Рыгоравіч заканчвае аддзелку яшчэ адной гармоні: шліфуе перламутравыя ўзоры на грыфе. І пачынае зіхцець слова, якім, як імем, пазначаны ўсе гармоні Пятра Рыгоравіча, — «Перамога».

— Гэтую ў Барнаул вышлю. Па заказе.

— Вашы гармоні і там ведаюць?

— А дзе іх не ведаюць, — смяецца задаволены гаспадар. — Заказы прыходзяць з Далёкага Усходу, з Сахаліна, Урала. Шмат гармоняў па Сібіры разышлося. А больш за ўсё, канечне, па сваёй вобласці, па Беларусі, суседняй Браншчыне.

— І ўсё «Перамогі»?

— Мая марка. А сэнс такі. Па галасістасці ёй няма роўных. За вайну колькі краін прайшоў, усякія гармоні пабачыў. А роўных — не сустрэў. Ну, і... у знак нашае перамогі яшчэ назву даў. Тут як бы два сэнсы...

Дзіўны лёс. Кідаў ён чалавека па многіх дарогах. Па многіх краінах. І не пад мірным небам ганяў, не пад цёплым сонцам: пад агнём, свінцовым дажджом. Куды ні кіне — верная смерць. А ён, нябога, уцалеў. І нават не страціў у пекле гэтым любоў сваю. Мабыць, такая жыццястойкасць у мастацтве не выпадковая, калі мастацтва прыходзіць да чалавека з жыцця, з побыту народнага. Мне адразу прыгадваецца мастацтва і лёс старэнькай жанчыны Анастассі Захараўны Ракутавай. Пазнаёміліся мы ў Неглюбцы, хоць сама яна з недалёкіх адсюль Гадзілавіч.

— Ткуць і ў нас, — сказала мне мімаходзь. — Прыязджайце. Пабачыце і цікавае.

І я заехаў. Вяртаючыся з Неглюбкі.

Што ж, ткуць у Гадзілавічах таксама як на выстаўку. Але ўсхвалявала мяне там зусім іншае. Усхваляваў лёс Анастассі Захараўны. Гэткае жыццё! А як спакойна расказвала:

— Ткала я, ткала, наткала поўныя куфры з коптурам. А тут вайна. Душа ў мяне да вайны не прыспасобленая. Змоладу ткала кветкі, травічку, расінкі сонечныя... Ну, выправіла сынка ў партызаны. Адна засталася. Яблынька ў полі... Немцы дазналіся, што сын у партызанах — пачалі цягаць мяне па камендатурах, управах. Завезлі ў Рагачоў. Там збілі на горкае яблыка. Білі дзесяць дзён. Каб я ім сынка выдала. Ірады... І цяпер спіна чорная. На ўсё жыццё... Потым у Бабруйск павезлі. Там плёткамі лашчылі. Адтуль — у Нямеччыну. Хату маю спалілі. Потым ужо людзі казалі, што куфры мае ачысцілі, перш чым паліць. Усё натканае ў машыну грузілі... Значыць, працавала я ў Нямеччыне. Аднойчы мой баўэр прывёз пасцілку. Паслаў на канапу, а я — зірк: сэрца зайшлося — мая пасцілка! Ей-богу, мая. Бо хіба я сваёй работы не пазнала б? Ды і нідзе нашым арнаментам, па нашаму не ткалі... Шашачкамі...

Дамоў Анастасся Захараўна вярнулася разам з савецкімі войскамі — напярэдадзень перамогі. Ад хаты засталася ўчарнелая печ ды попел вакол яе. Суседзі да сябе клікалі. А яна села на сваю халодную абгарэлую печ і праседзела да раніцы. Пахавала ў думках сынка, які загінуў у партызанскім лесе, аплакала хату, разрабаваныя ручнікі і посцілкі. Неўзабаве прыйшла пара сеяць. Ускапала Анастасся Захараўна абгарэлай рыдлёўкай лапік зямлі ля печы і першую градку засеяла льном. Каб было з чаго выткаць першы ручнік...

Вось так. Ніякія бізуны не выбілі з душы прыгажосць. Адна, як тая яблынька ў полі, засталася на папялішчы і ўжо думала пра кветкі на ручніках. Быццам кветкі гэтыя павінны былі і душу адзінокую сагрэць, і загаіць крывавыя раны, і накарміць, і напаіць...

Так і мастацтва Пятра Рыгоравіча ніякае ліхалецце не вынішчыла з душы.

— Можа б за вайну і вычхалася мая любоў, калі б з маленства ў кроў яе не пусціў. А ў крыві яна шчэ ад бацькі.

Праўда, бацька Пятра Рыгоравіча памёр рана — майстэрству гармоннаму давялося вучыцца ўжо ад іншых майстроў. Скажам, ад свайго аднавяскоўца Акіндзіна Мельнікава.

— Прыбягу да яго, бывала, — прыгадвае Прыходзька, — а ён інструмент у мяшок, кажух на плечы, ды за парог. Не хацеў сакрэты выдаваць. А дзе мне яшчэ вучыцца?..

Бедна жыла сям'я. Але неяк выкачаліся ў гаспадарцы тры авечкі. Шмат спадзяванняў на іх было. Ды Пётр разбурыў матчыны планы: пачаў авечак прасіць для сябе. Не дала спачатку маці. Пусціўся ён у слёзы. І адлягло матчына сэрца. Прывёў Пётр суседа на двор, парэзаў з ім разам авечак, склаў мяса ў мех, узваліў мех на плечы і — у Гомель на рынак. Прадаў мяса і паехаў на тыя грошы ў Тулу да гармонных майстроў. З месяц вучыўся ля іх, купіў затым наклёп, планкі галасавыя...

— Вось калі разгарнуўся. Мельнікаў рабіў гармоні венскага строю. А я — баяннага, скрыпічнага, арганнага... Баян сам зрабіў. Механіка, праўда, цяжкая...

Пра гармоні Пётр Рыгоравіч можа расказваць бясконца. Як падбірае дрэва («... люблю вольху. І голас мяккі, і апрацуеш, дык што цацка»), як даводзіць наклёп («...больш — пад граматыку. Народ наш граматыку любіць.»), якія гармоні бачыў у час ваенных паходаў пад Кішынёвам і Прагай, у Венгрыі і Аўстрыі, Польшчы і Германіі... Расказвае пра сваё ўмельства не як пра звычайнае рамяство, каторае корміць і поіць (хоць корміць і поіць, безумоўна, таксама), а як пра мастацтва — з любоўю.

— Не магу перажываць, калі інструмент глухі да сэрца музыкі. Вазьміце нашы маладзечанскія гармоні, — абураецца ён. — Фабрычныя, з добрага матэрыялу, а душа да іх не ляжыць. Хачу зрабіць гармонь з іхняга матэрыялу, калі толькі дастаць удасца, і для нагляднасці ім падарыць. Няхай паглядзяць, як інструмент пець павінен. На якой мове. Ім тэхналогію паламаць бы ўсю трэба...

Не, гэты майстар зусім не падобны на Акіндзіна Мельнікава, свайго былога суседа, каторы ўцякаў з хаты, калі хлапчук прыходзіў павучыцца рабіць гармоні. Для Пятра Рыгоравіча гармоннае мастацтва ніколі не жыло як сродак адно матэрыяльнага набытку, хоць сям'я — сем сыноў — патрабавала нямала і хлеба, і кніжак, і адзежы. У душу кожнай зробленай гармоні Пётр Рыгоравіч укладаў кавалачак свае душы і яму заўсёды хацелася, каб музыкі не клялі майстра, каб яго ўласная душа ніколі не памірала ў гармоні, жыла там, спявала, весяліла людзей. Ён нідзе не чытаў, што мастацтва і мастак павінны быць шчодрымі, не навучыў яго гэтаму і Акіндзін Мельнікаў, але шчодрасць жыла ў ім ад прыроды, сама па сабе. Гэтую шчодрасць яго я зразумеў па-сапраўднаму крыху пазней, калі адкрыў для сябе яшчэ адзін пошук Пятра Рыгоравіча.

Спачатку ў маіх руках аказаўся фотаздымак. На ім бацька з сынамі Мішам, Пецям, Грышам, Іванам, Віктарам, Васілём, Валерыем. Восем мужчын, з якіх малодшаму Валерыю сем гадкоў, старэйшы з сыноў Міша толькі скончыў сярэднюю школу. Перавага малодшага — месца яго на бацькавых каленях, старэйшага — адзіны з братоў у чаравіках. Бацька з сынамі акружылі мадэль трыццаціпавярховага будынка, увенчанага шпілем і чырвонай зоркай.

— Вось яшчэ хвароба, — усміхаецца Пётр Рыгоравіч. І ўжо з сумам: — Калі б я ў свой час набыў адукацыю...

Яго адукацыя сапраўды не па часе: чатыры класы. Можа прачытаць, напісаць пісьмо — і ўсё. Што ж, не кожны скончыць універсітэты, калі з дзесяці гадоў вымушаны працаваць, даглядаць меншых братоў і сясцёр.

Але прырода не абдзяліла чалавека жыццёвай мудрасцю.

Перада мною стаяць мадэлі каркасаў дамоў у некалькі дзесяткаў паверхаў, вежы, вельмі падобнай на Астанкінскую тэлевізійную, кароўніка і міжпланетнай станцыі.

Кароўнік і міжпланетная станцыя...

Усе збудаванні, аказваецца, з аднаго матэрыялу: драўляных брусоў, каторыя можна замяніць брусамі сталёвымі, жалезабетоннымі, пластмасавымі... Брусы мацуюцца вельмі арыгінальнымі вузламі, пры якіх не трэба ні цвікоў, ні зваркі, ні шыпоў. Проста і лёгка кладуцца, кладуцца, кладуцца — адзін на адзін. Пётр Рыгоравіч прапануе гэтак нарошчваць паверхі самых грандыёзных збудаванняў і збіраць самыя малыя. Кароўнік, напрыклад, метадам Прыходзькі можна сабраць за некалькі гадзін.

— Такі замок і больш даўгавечны, як зварачны шоў. Вось пачытайце, што піша навуковы супрацоўнік...

Са сваім вынаходніцтвам Пётр Рыгоравіч ужо знаёміў некаторых вучоных Масквы і Мінска, пісаў у спецыялізаваныя інстытуты. Многія падтрымліваюць прапанову, высока ацэньваюць народнагаспадарчае значэнне і мэтазгоднасць укаранення ў будаўнічую практыку нечакана арыгінальнага прынцыпу вязкі каркасаў. Многія — гэта, безумоўна, не ўсе, аднак для пачатку не так і мала. Новая думка прабіваецца да жыцця не адразу. Тым больш, калі яе аўтар — вясковы майстар з чатырохкласнай адукацыяй...

Не, ён зусім не падобны на старога гармоннага майстра Акіндзіна Мельнікава, свайго былога суседа. У сваім шчодрым палёце Пётр Рыгоравіч куды бліжэйшы да Анастассі Захараўны. Не, не раўня ім стары Акіндзін.

□ □ □

Шэрае неба...

Шэрая снегавая неруш абапал дарогі.

І снег — дробны, калючы. На моцным стрэчным ветры ён сячэ твары, як іголкамі.

Дзень правёўшы ў пасёлку Пераяслае, мы вяртаемся ў Неглюбку слухаць песні. З Донарам яшчэ з раніцы загадана абыходзіцца асцярожна і волі сваёй мы каню не дыктуем, адно шэпчам, ды і то не столькі яму, як сабе на суцяшэнне: «Ціш-ш-ш...» Ён сам адчувае дарогу, бо дарога вядзе дамоў. Сам, без панукання, імчыць так, што не хочацца бачыць гэтай язды і мы ляжым ніцма, тварамі ў сена. Два разы Донар выкідваў нас з вазка. Усіх траіх. І ў гэтай начной замеці мы вельмі проста страцілі б дарогу і Донара, калі б Пеця хоць на імгненне выпусціў з рук лейцы. Ды ён не выпусціў іх нават тады, калі, выкінуўшы нас з вазка, Донар доўга валачыў свайго ездавога па снезе. Дзе ж ты спыніш адразу: конь стаенны, дырэктарскі.

А вось і Неглюбка.

Хата Васіля Дзямчыхіназзяе вокнамі.

Скалелыя, мы абы як прывязваем Донара да весніц і бяжым у хату. Рыгор адразу, ля парога, скідае з сябе шапку, паралонавую бяду-куртачку, чаравікі і просіцца ў гаспадыні Просі Іванаўны на печ. Атрымаўшы дазвол, ён не забывае прыхапіць з сабой на гарачы чарэн блакнот з алоўкам, бо ўжо адчувае: будуць песні. Яны абавязкова будуць таму, што ў Просечкі — так у вёсцы завуць гаспадыню — ужо сабраліся лепшыя неглюбскія пяюхі, прыйшлі мужчыны — хто пець, а хто паслухаць, — расселіся кругам, як на бяседзе.

— Ёсць прыгожая песня... Як яе?..

— Пачні дзедаву. «Дзеванькі-сяброваччкі»... Ведаеш?..

— Гэную можна.

— Раней, дык усякія пелі. А цяпер паслухаеш маладых: то я мілёначка, то мілёначак мяне...

— Яшчэ люблю бабкіну. «Пад

Нарыс першы — у № 28, 10 красавіка г. г.

# «БУДЗЕМ ПОМНІЦЬ ДОЎГА»

Вялікая светлая выставачная зала Беларускага філіяла навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі... Вочы разбягаюцца ад мноства не падобных адна на другую работ. Гэта выстаўка-конкурс твораў самадзейных мастакоў і ўмельцаў Мінскай вобласці і сталіцы Беларусі. Паказваецца больш 700 экспанатаў: ткацтва, кераміка, разьба па дрэве, жывапіс, графіка, скульптура, інкрустацыя, вырабы з шкла, чаканка па метале, сувеніры з косці, пластмасы і ільну... Прыемна ўражваюць разнастайнасць жанраў і творчых почыркаў удзельнікаў выстаўкі.

Сваё натхненне, багатую творчую фантазію многія мастакі-аматары і ўмельцы прысвяцілі вобразу У. І. Леніна, гісторыка-рэвалюцыйнай тэме, баявому подзвігу савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, новай яве нашых дзён. Пра Леніна і яго справы расказваюць разнастайныя кампазіцыі — «Дэкрэт аб міры» В. Ульянава, «Дэкрэт аб зямлі» С. Гудкоўскага, трыпціх студыйцаў Барысаўскага гарадскога Дома культуры, якімі кіруе С. Мірзаян, — «Вайна 1812 г.», «Вайна 1941—1945 гг.» і «Будаўніцтва камунізма», інкруставаныя партрэты Уладзіміра Ільіча работы В. Фокіна і М. Жолудзева. Вартая ўвагі шматгадовая работа над вобразам правадыра самадзейнага скульптара К. Гелашвілі.

Вялікі раздзел выстаўкі — ткацтва. Багацце фантазіі, прыгажосць фарбаў, дзівосная кампазіцыя ўзораў. Здаецца, што сюды, у гэтую залу сабраны ўсе кветкі нашых лугоў і палёў.

Уяўляю, якім быў бы непаўторна прыгожым калгасны Палац культуры сучасных архітэктурных форм, каб у інтэр'еры яго выкарыстаць матывы народных умельцаў.

На юбілейнай выстаўцы паказалі свае работы і самадзейныя жывапісцы і графікі. У кампазіцыях М. Шчалканогава адлюстраваны ратны подзвіг савецкіх людзей у час Вялікай Айчыннай вайны. С. Войцешак з Салігорска экспануе



Джэд Кайлі

# Хэмінгуэй

## УСПАМІНЫ СТАРОГА ТАВАРЫША

## ТРОХДЗЁННЫ ШТОРМ

Ён быў стары, і ён даўно ўжо не мог злавіць ніводнай рыбіны. Таму, што не рыбачыў. А забаўляўся. Калі ён рыбачыў, ён вывуджваў рыбу. Калі забаўляўся—бутэльку. Можна было заўважыць, што ён даўно не галіўся і не спаў. Хлопчык глядзеў на яго з захапленнем.

Усё ў старога было маладым, акрамя вачэй. Вочы былі колеру марскіх водарасцей, якія занадта доўга знаходзіліся на сонцы. Але яны свяціліся весялосцю і адвагай. Далонь, зрэзаная глыбокімі, нібы шрамы, складкамі, моцна трымала шклянку. Адны шрамы былі старыя, як трэшчыны ў бязводнай пустыні. Іншыя, на костачках пальцаў, свежыя, быццам ён толькі што з'ездзіў кулаком па моцным абветраным твары. На шчацэ ў яго таксама была свежая драпіна: відаць, яе крануўся кулак блізкага альбо крэсла далёкага. Босыя яго ступні ўпіваліся ў палубу гэтак жа ўчэпіста, як моцныя пальцы—у шклянку, быццам нехта збіраўся яе адабраць. Згледзеўшы нас, стары хрыпла засмяяўся. Ён выключыў матор і падышоў да нашага борта.

— Каб я лопнуў,—сказаў ён.—Дык гэта ж авантурысты! Што вы тут робіце? Заводзіце штармавыя швартовы? Сынкі мамчыны, ногі баіцёся памачыць?

Усё-такі ж, падумаў я. Столькі гадоў мінула, а ён гаворыць так, быццам бачыў цябе ўчора. А можа так яно і ёсць? Можа, ён і сапраўды глядзеў на нас праз патаемныя амбразуры свайго замка?

— Швартуйся ды хадзі да нас,—сказаў Гіб.—Насоўваецца шторм.

— Ніяк нельга,—адказаў Эрнест.—У мяне спатканне на Біміні. Наведаюся, калі надвор'е аціхне. Выправімся парыбачыць. Адсюль і ходу—усяго адна бутэлька.

Час ён вымяраў па-свойму—колькасцю выпітага.

— Буду там заўтра апоўдні.

— Заўтра апоўдні ты сыграеш у новую скрынку, —сказаў я.

Ён паглядзеў у неба, чмыхнуў. Вецер узмацняўся, з кожнай мінутай станавілася ўсё цямней. Ён штосьці сказаў па-іспанску, хлопчык уключыў матор, Эрнест адштурхнуўся ад борта нашай яхты і памахаў рукой.

— Убачымся на Біміні, мамчыны сынкі. Да сустрэчы,—сказаў ён і накіраваў сваё карыта прама ў Атлантыку.

Ну што ты з ім зробіш? Вечна на ражон лезе. Тоўсты кашалёк, відаць, ні кроплі не паўплываў на яго. Выглядае ён такім жа жабраком, як і ў гады беднасці, нават горш. Ды і карыта гэта ніяк не назавеш яхтай. Падобна, што багацце яму нічым не пагражае.

— Звар'яцеў, напэўна,—сказаў наш капітан.

— Ты як у ваду глядзіш,—адгукнуўся я.

Мора паблізу прыбярэжных астравоў Фларыды — сапраўдныя могілкі караблёў. Раней жыхары Кі-Уэста прамышлялі на тым, што грабілі судны, якія пацярпелі крушэнне. Вецер нёс караблі на вострыя, як зубы пілы, рыфы, а ўдары хваль завяршалі справу. Пагаворваюць, што тутэйшыя жыхары тушылі маякі, калі іх «бізнес» заняпадаў. Рэшткі тысяч караблёў пахаваны на тутэйшых водмелях. Частыя шквалы, водмелі і рыфы робяць гэтыя мясціны самымі небяспечнымі ў свеце.

А на гэты раз разгуляўся не які-небудзь там штормік, а сапраўдная бура. Рыбакі-кончы ўцякалі дадому на ўсіх парусах. Нават птушкі, сабраўшыся ў чароды, ляцелі ўглыб вострава, быццам перад ураганам.

Востраў Біміні, калі верыць нашаму капітану, — малюсенькі кавалачак зямлі ў Карыбскім моры, і выйсці на яго ў штармавое надвор'е тое ж самае, што знайсці іголку ў стозе сена.

— Ваш прыяцель,—сказаў ён,—праз дні два прыкульгае назад, у Кі-Уэст, альбо ўвогуле нікуды не прыплыве.

Ты не ведаеш Хэмінгуэя, падумаў я.

Калі бот Эрнеста праходзіў міма берагавой аховы, пачулася выццё сірэны, падобнае на сігнал паветранай трывогі. У бок мора ішоў толькі бот Хэмінгуэя, значыць сірэна прызначалася яму. Цяпер ён вернецца, вырашыў я. Але ён і не думаў вяртацца. Проста стаяў ля штурвала і махаў адной рукой. Вялікі палец другой рукі ён прыставіў да носа. Гэты красамоўны жэст прызначаўся берагавой ахове. Апошняе, што мы ўбачылі, гэта бездапаможны боцік, які ішоў насустрач буры. Раптам ён растварыўся ў змроку, як гэта бывае ў галівудскіх фільмах.

Шторм разгуляўся не на жарты. Нават уласнай шклянкі не было відаць. Мы злавілі таксі і ледзь паспелі дабрацца да «Ла Конча». Пальмы схіляліся пад ветрам ледзь не да зямлі, калі мы імчаліся па вуліцах. Ды і аўтамабіль пагойдваўся так, быццам вось-вось перавернецца. Дождж лупіў па вокнах, як з брандспойта. Хоць час ураганаў яшчэ не надышоў, мне здавалася, што гэта ўраган.

— Божа, выратуй плыўцоў у такую ноч,—сказаў Гіб.

— Амінь,—сказаў я.

Вецер выў тры дні і тры ночы. Мы адседжваліся ў бары ды пазіралі ў вокны на Дзюваль-стрыт. Толькі зрэдку на вуліцы паяўляліся матросы-янкі, захутаныя ў непрамакаемыя плашчы і ў зюйд-вестках. Яны адварочваліся ад дажджу і ветру. Магу пабажыцца, хлопцы былі ад душы рады, што знаходзяцца ў порце, а не ў моры.

На чацвёрты дзень з самой раніцы мы выправіліся на Біміні. Вецер і дождж аціхлі, але ўсё яшчэ ішла буйная хваля. Мы навялі даведкі ў гавані наконт Хэмінгуэя. Ён не вяртаўся. Мы ўстрывожыліся. Я пазваніў у берагавую ахову. Калі я назваў імя Эрнеста, у трубцы выбухнуў рогат.

— Ды ён ведае тутэйшыя воды лепш за нас, — адказаў чыйсьці голас.

Наглядчык гавані таксама не падзяляў нашых турбот.

— Ён загіне ў моры толькі тады, калі яго павесяць на рэі.

Мы дабраліся да Біміні на зыходзе дня. Што гэта было за відовішча! Востраў нагадваў казачную тыяру, акаймаваную дыяментамі. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што пасля свайго першага плавання Хрыстафор Калумб высадзіўся менавіта тут. І, гавораць, назваў востраў Сан-Сальвадор. Ці праўда гэта, не ведаю, але гатовы пайсці на заклад, што Крыс, убачыўшы зямлю, узрадваўся не больш, чым мы. Біміні—самы малюсенькі з групы Багамскіх астравоў, якія належаць Англіі. Калі не лічыць гасцінічкі, дык усё выглядае так, як і ў часы Калумба. Насельніцтва яго—сотні дзве туземцаў, лад жыцця якіх і знешнасць ні кроплі не змяніліся з пятнаццатага стагоддзя. Адзіная розніца ў тым, што цяпер яны слухаюць па радыё рэпартажы аб спаборніцтвах па боксе і бейсболе. Гэта трапічны востраў, якія звычайна паказваюць у кіно: спрэс какосавыя пальмы і белы пляж. У атласе свету ён памечаны кропкай, і сказана аб ім усяго толькі некалькі слоў: «Біміні—невялікі востраў Багамскага архіпелагу ў Вест-Індыі, дзе, згодна з паданнем, Понсе дэ Леан знайшоў Ключ маладосці».

Я ўзяў у капітана бінокль і зірнуў на востраў. Я разгледзеў гавань, вузкі доўгі прычал, але бота Хэмінгуэя не было відаць. На прычале стаяла каля паўсотні туземцаў і ніводнага бледнатварага. Пэўна, прыплыў і зноў кудысьці паплыў, паспадзяваўся я.

Але ён і не прыплываў і нікуды не адплываў. Пра гэта мы даведаліся ад туземцаў, якія дапамаглі нам прышвартавацца. Перш-наперш яны спыталіся, ці не бачылі мы сеньёра Хэмінгуэя. Калі мы ім сказалі, што ён адплыў сюды чатыры дні назад, яны ўсе заўсміхаліся. Я не мог зразумець, што смешнага ў тым, але ім усё гэта здавалася пацешным.

— Ніякая бура не страшная Папе,—сказаў адзін з іх.—Ён прыплыве. Вось убачыце.

Нам хацелася ім верыць, але мы па-ранейшаму сумняваліся. Заўважыўшы ў другім канцы прычала невялікі туземны бар, мы накіраваліся да яго. Плаванне было даволі стамляючым і мы ледзь трымаліся на нагах. Некалькі хлопцаў, падтрымліваючы нас пад рукі, праводзілі да бара, хоць іх аб гэтым і не прасілі. Папа здорава іх вышкаліў, падумаў я. Дабраўшыся да бара, мы ўселіся ў плеценыя крэслы і пасля порцыі цудоўнага віскі, якое падаюць на англійскіх астравах, наш настрой палепшыўся.

Але мы па-ранейшаму хваляваліся. Гіб хацеў было звязацца з Кі-Уэстам і паведаміць, што Эрнест прапаў без вестак. На Біміні быў радыётэлефон, і мы маглі гэта зрабіць. Але калі б звязаліся з Кі-Уэстам, а Хэмінгуэй аказаўся б жывы, гэта яго вельмі засмуціла б. Ён цярпець не мог, калі пра яго гаварылі. Дзіўна, але факт. Спытайце любога рэпарцёра, які ведае яго. Ён уласныя кнігі не стане з вамі абмяркоўваць, а не тое што гаварыць пра сябе. У гэтым яму трэба аддаць належнае. Успомніце, як ён раз'юшыўся, калі я разрэкламаваў яго ў «Бульвардзье».

Так што мы пакацілі ў гасцініцу і леглі спаць.

Раніцою мы пачулі добрыя весткі. Юнак, які прынёс нам каву, ззяў ад радасці. Папін бот набліжаецца да гавані,—аб'явіў ён. Праз гадзіну ён дацягнецца да прычала, і ўсе жыхары вострава выйдуць яго сустрэць. Можна падумаць, што гэта Хрыстафор Калумб, які вяртаецца з плавання, абурыўся я.

І ўсё ж мы з Гібам былі разам з усімі, калі «Пілар» прышлэпала да прычала. Відаць было, што боту дасталося здорава. Шторм быў не жартачкі. Затое сам Эрнест выглядаў малайцом. Мы знаходзіліся не на прычале,—там не было месца. Мы чакалі яго каля бара, таму што ведалі, куды ён перш за ўсё накіруецца. Вы б толькі бачылі (і чулі), што рабілася! На прычале выстраіўся аркестр з трох музыкантаў. Напэўна, Ліндберга, які ехаў па Пятай авеню, сустракалі не лепш. Толькі мелодыя, якую выконваў аркестр, была іншай. Гэта быў гімн «Божа, беражы караля!» Яны і віталі яго, як караля. Смехам, усмешкамі, воклічамі. Яны, як і мы, былі рады яго паяўленню.

Наш разлік аказаўся правільным. Эрнест накіраваўся прама да бара, усміхаючыся і расштурхоўваючы напаўголых людзей, быццам герой-заваёўнік. Ён і сам быў напаўраспрануты і абветраны настолькі, што яго можна было палічыць за туземца. Ён ішоў босы па драўляным памосце, з якога тырчэлі цвікі і стрэмкі, з такім выглядам, быццам гэта быў мяккі дыван. Тыя яшчэ ногі! Падэшвы ў яго, відаць, дублёныя. Аднак зблізку было ўсё ж відно, што ён стомлены. Пэўна, яшчэ не прывык да сушы і хістаўся з боку на бок. Але ў яго было шмат сяброў, якія яго падтрымлівалі, і ён, нібы дзіця, радаваўся ім. Хлопчыка-кубінца, яго памочніка, не было відаць. Напэўна, спаў. І не дзіўна. Пасля стольгіх дзён і начэй гайданкі. Але Эрнеста, здаецца, ні кроплі не загайдала.

## ПАСЛЯ БУРЫ

Было ясна, што шторм не зменшыў смагі Эрнеста. Зайшоўшы ў бар, ён, не міргнуўшы вокам, перакуліў дзве шклянкі неразбаўленага віскі і толькі пасля гэтага паздароўкаўся. Я заўважыў, што поціск яго рукі быў ранейшы: мазалі ўразаліся ў нашы далоні. Быццам у яго кулаку былі зацісныты кавалачкі колатага мармуру.

— Ну, як Атлантыка?—спытаў я.

— Сіла,—сказаў ён.

— Плаванне было ўдалае?—пацікавіўся Флойд Гібанс.

— Не,—сказаў ён.

— Чаму?—спытаў я.

— Скончылася выпіўка.

— Гэта, вядома, жахліва,—сказаў Гібанс.

— А як з ядой?—спытаў я.

— Еў сырую лятучую рыбу,—адказаў Эрнест.

І больш мы з яго не змаглі нічога выцягнуць. Толькі кароткія фразы, накшталт тых, што ён выкарыстоўвае ў сваіх дыялогах. Можна падумаць, ён вярнуўся з лёгкай лодачнай прагулкі ў Цэнтральным парку. Захапіўшы бутэльку з сабой у гасцініцу, мы назіралі, як ён распраўляецца са здаравенным кавалкам мяса. Такога хапіла б на чацвярых.

— Як усё-такі нам вывудзіць з цябе расказ пра шторм?—сказаў Гібанс.—Чакаць, пакуль ты яго напішаш, а пасля купіць кніжку?

— А што тут расказваць?—сказаў Эрнест.—Проста стаў на плывучы якар* і чакаў, калі аціхне вецер.

— Вось яно што!—сказаў я.

— Як у час цяжкага бою,—працягваў ён.—Хаваеш падбародак і чакаеш.

— А як наконт бою на Дзюваль-стрыт?—спытаў я.

— Якога бою?

Большасць людзей любіць расказваць пра свае кабацкія стычкі. Я, напрыклад, часта расказваю адны і тыя ж гісторыі адным і тым жа людзям. Гэта мяне падбадзёрвае. Але Эрнест не такі. Многія, выпіўшы, развязваюць языкі. А ён, наадварот, становіцца ўсё больш маўклівы. «Накачваць» яго, каб прымусіць гаварыць, справа дарэмная. Усё канчаецца тым, што вы самі расказваеце яму, як спляжылі калісьці таго ці іншага нахабніка.

* Конус са шчыльнай парусіны, з невялікім грузам унізе, які дае магчымасць судну дрэйфаваць, утрымліваючы нос супраць хвалі і ветру.

Працяг. Пачатак у №№ 27 і 28.



Георгій ВЫЛЧАЎ

# КРАСАВІК— АД СЛОВА КРАСАВАЦЬ

*ПІСЬМО З САФІІ*

Не ведаю калі гэта маё пісьмо будзе надрукавана. Але ў нас зараз красавік, першы паса́праўднаму веснавы месяц. Я гавару пра Сафію, бо Сафія горад горны, і вясна сюды прыходзіць крышку пазней. Пачынаюць зеленець дрэвы, зацвітаюць першыя кветкі. Праўда, самы кветкавы месяц у нас май.

Красавік у Сафіі, як малое дзіця, крычыць на ўсе лады, спявае, усюды птушынае наступленне, птушыны грай, песні. Вясной, здаецца, і людзей больш цягне на песні і музыку, бо такі ўжо своеасаблівы настрой у гэты час, бо на такі лад настройваюцца душэўныя струны ў гэтыя дні.

Горнецца і мая душа ў такія дні да песні і музыкі, і ўспамінаюцца мне беларуская вясна, песні і мелодыі ляснога і азёрнага краю, якія я горача палюбіў і якія, здаецца б, слухаў бясконца. Успамінаецца мне Дэкада беларускай музычнай культуры ў Балгарыі, 1965 год. Я бачыў трыумфальнае шэсце гэтай Дэкады па нашай рэспубліцы, бачыў як добра ўспрымаюць нашы людзі канцэрты беларускіх мастацкіх калектываў. І тады ўжо я радаваўся, што музычная культура братняга народа пракладвае шлях да сэрцаў балгар. Цяпер жа я ўспамінаў канцэрты пеўчых і інструментальных калектываў, якія давялося пачуць нядаўна ў Мінску, і вельмі смуткаваў і шкадаваў, што яшчэ ніводзін з іх не завітаў да нас, што наш народ не можа ацаніць іх па вартасці.

Пачынаючы з 1965 года Балгарскае радыё ўсё часцей і часцей перадае канцэрты беларускіх народных і эстрадных песень, твораў сучасных кампазітараў Беларусі. Але не так ужо часта, каб мы маглі сказаць, што вось гэта ці іншая песня стала ў нас асабліва папулярнай, нібы сваёй роднай.

А, можа, мне толькі так здаецца, можа я адарваўся ад жыцця, залішне закапаўся ў сваіх кнігах? Выйшаў на бульвар — шумны і пявясноваму свежы. Хацелася спыніць жыхароў сталіцы, як гэта робяць вопытныя журналісты, калі хочуць ведаць думку грамадзян па тым ці іншым пытанні. Хацелася пытаць, што яны ведаюць пра музычную культуру Беларусі, як яна ім падабаецца. Але людзі ішлі паспешліва, быў звычайны, поўны клопатаў будзень. І я вырашыў — ці варта гэтак рабіць, ці не будзе гэта занадта банальна?

Калі я ўжо намерыўся колькі слоў напісаць аб нашых сувязях у сферы музыкі, то трэба перш за ўсё наведаць Балгарскае радыё. Гэта самы шчыры і мэтанакіраваны распаўсюджвальнік беларускай музыкі. І там працуе добры сябра беларускіх кампазітараў і выканаўцаў народных і эстрадных песень Георгі Баяджыеў. Трыццаць гадоў сябруе ён з музыкай, загадвае аддзелам народнай творчасці на радыё. За самаадданую працу ён узнагароджан Залатым медалем працы і ордэнам Кірыла і Мяфодзія. Не лішне будзе сказаць, што гэта таксама вельмі сардэчны і прывабны чалавек.

І от мы ўжо сядзім з ім, гаворым пра Беларусь. У складзе балгарскай дэлегацыі ён наведаў у юбілейныя для Беларусі дні вашу рэспубліку, і натуральна, што гаворка зайшла спачатку пра гэта. Уражанні з паездкі ў Баяджыева самыя хвалюючыя. Ён шчыра прызна-

Мы ўсё яшчэ сядзелі ў сталовай, калі туды зайшло двое наведвальнікаў. Зараз пачнецца прадстаўленне, вырашыў я. Як ужо яго толькі ні ўлагоджваюць! Але Эрнест папярэдзіў, каб мы не ўздумалі смяяцца. Госці прыйшлі па справе. Адз'н з іх быў, відаць, нейкай важнай персонай. На ім быў цыліндр і фрак. Праблема, які начапіць гальштук,—белы альбо чорны,—была вырашана ім, як я заўважыў, з даволі вялікім тактам. Ён не начапіў увогуле ніякага гальштука. Больш таго, ён не апрануў і сарочкі. А босыя ногі былі вартага выпадку чорнага колеру.

На другім туземцы былі апрануты толькі чырвоныя шорты. А які торс! Макс Бэр і Джо Луіс, узятыя разам! Рост — шэсць футаў і два дзюймы, доўгія, моцныя рукі — да каленяў. Ад такіх рук не схаваешся. Пад скурай змеямі звіваліся тугія, моцныя мускулы. Паходкай ён нагадваў тыгра. Было яму гадоў дваццаць два.

Калі яны падышлі да стала, адзін з іх прыгожым жэстам зняў цыліндр і, ударыўшы сябе ў грудзі, сціснуў яго гармонікам.

— Вітаю вас, джэнтльмены, — вымавіў ён з цудоўным аксфардскім пранонсам. — Дазвольце прадставіць вам містэра Дызраэлі, які вырашыў кінуць свой выклік.

Мы з Гібам пераглянуліся. Мы не маглі зразумець, што за глыбокі сэнс хаваецца ў гэтых словах. Змахвала, быццам, на дуэль. Але Эрнест, відаць, ведаў, у чым справа. Ён пакланіўся ў сваю чаргу.

— О'кэй, — сказаў ён. — Рыхтуйце пальчаткі і рынг. Праз два глыткі я выйду.

«Гары з цыліндрам» з царскім выглядам апрануў свой галаўны ўбор, і абое пакінулі пакой гэтак жа спакойна, як і зайшлі. Мы павярнуліся да Эрнеста, чакаючы тлумачэння. Мне падалося, ён адчуваў сябе ніякавата.

— У мяне дамоўленасць, — сказаў ён. — Я плачу дзесяць фунтаў любому туземцу, які пратрымаецца са мной два раўнды. Дызі хоча паспрабаваць. Мо яму ўсміхнецца шчасце. Вось і ўсё.

— І ўсё? — сказаў Гібанс. — Ці не збіраешся ты баксіраваць з гэтым бугаём зараз?

— А чаму б і не? — сказаў Эрнест.

— Ты ж не ў форме, — сказаў Гібанс.

— Адкладзі на заўтра, — параіў я.

— Не магу. Мяне чакалі цэлы тыдзень. Я ім сказаў, калі адпраўляўся ў Кі-Уэст, што буду з ім біцца, як вярнуся. Я вярнуўся і не хачу пасаваць.

— А калі выйдзеш на рынг, дык не спасуеш? — сказаў я.

— Не кажы глупства, — сказаў ён.

Вось вар'ят. Яму ўжо трыццаць пяць, чатыры дні штармаваў, нічога, акрамя сырой рыбы, не еў, не спаў, хлябтаў толькі салёную ваду, а цяпер збіраецца выходзіць на рынг з чалавекам, які мацнейшы і маладзейшы за яго, ды яшчэ адразу пасля абеду. Я мог бы паставіць на яго, калі б ён быў у форме, а то ж ён нават не ачуняў ад гайданкі.

— Ты не вытрываеш двух раўндаў, — сказаў я.

— Паспрачаемся?

— Не, — адказаў я.

Што з таго? Дарэмна. Ні пра яго кнігі, ні пра бокс з ім не пагаворыш.

Пасля таго, як мы «праседзелі» яшчэ крыху віскі, Эрнест узяў са стала званочак і падаў мне.

— Будзеш рэферы, хранаметрыстам і суддзёй, — сказаў ён. — Работы ў цябе будзе няшмат. Толькі лічы не вельмі хутка. Я заўсёды даю ім магчымасць крыху ачуняць. І не разнімай нас, калі ўвойдзем у клінч. Табе можа перапасці. Калі ён пачне кусацца, не дыскваліфікуй яго. Я таксама яго ўкушу. Сачы за часам уважліва і, калі пройдзе тры хвіліны, пазвані. Калі пасля двух раўндаў ён будзе усё яшчэ на нагах, ён выйграў.

Да чаго ж саманадзейны, падумаў я. Яму і ў галаву не прыйшло, што ён можа пацярпець паражэнне. Які ў літаратуры, такі і ў боксе. Калі, маўляў, прайграе ў першым раўндзе, дык у другім пераможа накаўтам. Спадзяюся, хоць баксіруе ён лепш, чым піша. Эрнест падаў мне дзесяціфунтовую паперку.

— Гэта мне?

— Узнагарода таму, хто прайграе, — сказаў ён. — Аддасі яму пасля бою.

Як вам гэта падабаецца? Ну і самаўпэўненасць!

Ледзь толькі мы выйшлі з гасцініцы, як з берагу данёсся радасны крык, які, напэўна, можна было пачуць і на Майямі. Туземцы крычалі на англійскі манер: «Гіп, гіп, ура!» На сваім вяку я бачыў нямала баёў, але такіх гледачоў яшчэ не сустракаў. Пэўна, усё насельніцтва вострава высыпала сюды. Людзі, якія тоўпіліся на беразе, сталі кругам. Першыя рады, так сказаць, партэр, — хлопцы, што сашчапіліся рукамі, — стрымлівалі націск тых, што стаялі ззаду. Такую карціну можна было назіраць у старой Англіі, калі бокс толькі-толькі паявіўся. Вось, напэўна, чаму квадратныя пляцоўкі, на якіх цяпер праводзяцца спаборніцтвы па боксе, па-ранейшаму называюць рынгам, гэта значыць, кругам.

Рынг, відаць, быў належнага памеру. Замест канатаў былі шчэпленыя рукі туземцаў. Тым лепш. Дызі цяжэй будзе кінуць Эрнеста на канат.

Праштурхоўваючыся праз узбуджаны натоўп, мы заўважылі, што фаварытам быў Папа. Да яго адносіліся так, быццам ён быў баксёрам з мясцовага клуба, прытым баксёрам, які падае надзеі. Мы таксама заўважылі, што яму было гэта па душы. Як заўсёды, ён хацеў быць чэмпіёнам, і захапленне натоўпу прыносіла яму задавальненне. Ён нагадваў Дэмпсі, які ідзе на рынг, толькі ў Эрнеста быў большы жывот ды гусцейшая чупрына.

Калі мы дабраліся да рынга, хлопцы, якія выконвалі ролю слупоў, паднялі рукі, і мы прайшлі пад імі, быццам дзеці, якія гуляюць «у вароты». Але калі я ўбачыў сапраўдныя белыя пальчаткі, дык зразумеў, што тут не пахне дзіцячай гульнёй.

Нізкарослы Дызраэлі ў чырвоных трусах быў, прынамсі, на гадоў дзесяць маладзейшы і на столькі ж фунтаў цяжэйшы, чым Эрнест. Рукі ў яго былі даўжэйшыя, а жывот меншы. Але пераконваць Эрнеста было позна... Я падняў з рынга пару какосавых арэхаў і адкінуў іх убок. Інакш босыя баксёры маглі б зламаць на нагах пальцы. Зірнуўшы на ганак, я ўбачыў Гіба, які сядзеў у качалцы. Заняўшы «месца ў ложы», ён смяяўся. Я пашкадаваў, што знаходжуся не побач з ім. Усцерагчыся ад гэтых цяжкавагавікоў будзе нялёгка.

Я, было, прысеў на пясок, але адразу ж ускочыў на ногі: ён быў гарачы, як напаленая грубка. Я здзівіўся, як яны могуць хадзіць па пяску босымі, а не тое што біцца. Але Эрнест, здавалася, зусім не заўважаў гарачыні. Падэшвы ў яго крэмнёвыя, не інакш. Магу пабажыцца, што ён мог бы, як індыйскі факір, прайсціся босым па гарачым вуголлі.

Калі праціўнікі падрыхтаваліся, я запрасіў іх, як і належыць, у цэнтр рынга для інструктажа. Але абодва засталіся ў сваіх «кутках».

— У нас свае правілы, — сказаў Хэмінгуэй.—Ты толькі пазвані і ўсё.

Я аб'явіў пачатак матча на званне чэмпіёна Біміні. Словы мае былі сустрэты гулам адабрэння. Затым зірнуў на гадзіннік і пазваніў.

Пры першым гуку званка гігант у чырвоных трусах рынуўся ўперад, быццам насарог. Ён адразу перайшоў у наступленне. У кожным яго кулаку, здавалася, было па гіры. Адзін удар такой лапай, падумаў я, і стары з мора зноў пацерпіць караблекрушэнне. Але ўдараў не было. Бледнатвары ўхіляўся ад іх, грацыёзна адскокваў то ў адзін бок, то ў другі, накшталт тарэра—героя ўяго кніжак. І ў той момант, калі, здавалася, насарог успора яму жывот, ён птушкай кідаўся прэч. Я здзіўляўся, як гэта чалавек такога росту, ды яшчэ з металічнай каленнай чашкай, можа так хутка насіцца па рыхлым пяску. Проста трымацца збоку—і то было нялёгка. У чаравіках было поўна пяску, дыхаў я цяжэй, чым яны. Відаць, раўнд ужо скончыўся, падумаў я, але зірнуць на гадзіннік пабаяўся: яшчэ агрэюць.

А між тым Хэмінгуэй не нанёс яшчэ ніводнага ўдара. Прыкідваецца слабачком першыя дзве хвіліны, вырашыў я. Зараз, пэўна, пяройдзе ў наступленне. Але ён не зрабіў гэтага. Праціўнік зноў кінуўся ў атаку. На гэты раз ён прыціснуў Эрнеста да жывых канатаў і нанёс яму такі хук правай, што ў нашага чэмпіёна адарвалася б галава, калі б той трапіў туды, куды цэліў. Але ўдар не трапіў у цэль. Эрнест адхінуўся, і кулак праціўніка падкасіў двух туземцаў. Ну і лапа! Я, як рэферы, не ведаў, што мне рабіць. Затое гледачы ведалі. Замест тых, што ўпалі, сталі новыя і ўзяліся за рукі. Круг зноў замкнуўся. Відаць, такое здаралася не ўпершыню.

Гэтая замінка дала мне магчымасць зірнуць на гадзіннік. Божа літасцівы! Першы раўнд цягнуўся цэлыя чатыры хвіліны! Я пазваніў і раўнд скончыўся. Але байцы не разышліся па кутках: іх не было. Яны проста паваліліся на пясок і прыкрылі вочы ад сонца. Яно вось-вось адолее мяне накаўтам, падумаў я. Натоўп вар'яцеў. Як высветлілася пасля, упершыню туземцу ўдалося вытрываць першы раўнд.

Адзін з афіцыянтаў знаходзіўся поруч з Эрнестам. Ён вельмі нагадваў сапраўднага секунданта. Быццам на прафесійным матчы, ён падаў Эрнесту бутэльку, каб прапаласкаць горла. Мне яна была патрэбна не менш. Я глытнуў і ледзь не захлынуўся. Гэта было чыстае шатландскае віскі! Не дзіўна, што ён не выплёўваў. Я таксама не стаў.

Зірнуўшы ў куток праціўніка, я так і абамлеў. Чырвоныя трусы, ужо ўскочыўшы на ногі, вялі бой «з ценем». Нягледзячы на лішнюю хвіліну раўнда, ён ні кроплі не ўспацеў. Нават дыханне было роўнае. Перадышка скончылася, але я вырашыў, дзеля справядлівасці, даць Эрнесту (ды і сабе таксама) лішнюю хвіліну адпачынку. Папа ляжаў на спіне. Відаць было, як падымаецца і апускаецца, быццам акіянская хваля, яго жывот. Я думаў, ён спіць. Але я не паспеў апамятацца, як ён ужо быў на нагах. Вось гэта інстынкт! Здзіўляюся, навошта ён заняўся пісьменніцкім рамяством? Мог бы стаць чэмпіёнам свету, а пасля адкрыць уласны бар. Па прыкладу іншых чэмпіёнаў.

Ледзь толькі я пазваніў, як неба пакрылася ценем, і подых гарачага ветра штурхануў мяне. Я вырашыў, што гэта раптоўны шквал, якія даволі часта налятаюць на Карыбскае мора. Але гэта была цёмная хмара ў чырвоных трусах, якая рынулася на здабычу. Вы гаворыце, ураган-Джэксані. Гэты ж туземец быў Ураганам-Эднай, Кэралам і Коні, разам узятымі! Ён пранёсся міма мяне, быццам вятрак, які стаў на лыжы. Калі ён праімчаўся прама да мэты, трымаючы курс на зюйд-зюйд-вест, чуцен быў толькі свіст яго кулакоў. Цяжка давядзецца нашаму мораплаўцу з Кі-Уэста! Я ўжо рыхтаваўся да таго, каб аб'явіць імя пераможцы і новага чэмпіёна.

Але «стары з мора» толькі пахіснуўся, быццам пальма, якая прызвычаілася да ўраганаў. Яго шырокія ступні моцна ўперліся ў пясок; учэпістыя пальцы, быццам карані,ураслі ў глебу. Вы калі-небудзь бачылі, як урастаюць у зямлю ў час моцнай буры пальмавыя дрэвы? Яны, здаецца, быццам чакаюць перадышкі. Толькі выгінаюцца, але не згінаюцца. Я бачыў у Фларыдзе, як у час асенніх ураганаў какосавыя арэхі ляцелі ў паветры гэтак жа густа, як бейсбольныя мячы ў час адкрыцця сезона. Але мне яшчэ не даводзілася бачыць, каб чалавек выкручваўся ад удараў так часта на працягу такога кароткага часу. А ўдары гэтыя сыпаліся на Папу адначасова з усіх бакоў. Аднак ён выкарыстоўваў усё тыя ж прыёмы пальмаў і тарэадораў. Шкада толькі, што ў яго няма чырвонага плашча, каб схавацца за ім, падумаў я.

Тут ён аказаўся ў самай лютай частцы ўрагана. З громам, маланкай і ўсім астатнім. Цёмная хмара раз'ятрылася не на жарты. Праціўнік Эрнеста ўжо смакаваў перамогу і махнуў рукой на ўсялякую асцярожнасць. Магутная правая раз-пораз праразала паветра. Кулак яе нагадваў велізарную гіру, якой рабочыя ў Штатах пляжаць спарахнелыя будынкі. Ну, зараз канец, падумаў я.

І, нарэшце, канец надышоў. Але не такі, як я думаў. Удар белай маланкі, нанесены злева, трапіў прама ў сярэдзіну цёмнай хмары. Незразумела, з якога боку ён узнік, але было відавочна, што ён аказаўся сакрушальным.

Вы калі-небудзь бачылі, як падае бык, у сэрца якога трапіла шпага? Так упаў і Дызі, — паволі, неахвотна. Апусціўся на калені, быццам молячыся. Потым перавярнуўся і грымнуўся на зямлю.

Мне не трэба было лічыць. Але я ўсё-такі лічыў. Паволі, на чыкагскі манер. Але ён нават не паварушыўся. Бледнатвары перамог накаўтам на працягу першых дзесяці секунд другога раўнда. Я ўчэпіўся ў яго лапу і, як належыць, падняў яе ўверх. Ён дыхаў так цяжка, што мяне ледзь не валіла з ног.

— Пераможцам і па-ранейшаму чэмпіёнам аб'яўляецца Папа! — усклікнуў я.

— Канчай балбатню і пойдзем у бар, — сказаў ён.

Я, калі б нават і захацеў, не мог бы пайсці кудынебудзь інакш. Мяне падхапіла хваля радасных балельшчыкаў. Людзі запоўнілі бар і высыпалі на прычал. Відаць, такі рытуал, вырашыў я. Але жыхары вострава зусім не нагадвалі балельшчыкаў. Хутчэй яны нагадвалі дзяцей, якія толькі што выбеглі са школы.

І самым вялікім дзіцем быў Хэмінгуэй. Ён паказваў, як нанёс рашаючы ўдар, у той час як бармэн з чатырма памочнікамі працавалі, ледзь паспяваючы напаўняць безалкагольнымі напіткамі шклянкі. Я заўважыў, што сам Папа піў, аднак, не ваду. Ён растлумачыў мне, што мог бы пачаставаць усіх тым, чаго кожны пажадае. Але туземцы аддаюць перавагу ліманаду. Я наліў сабе віскі і спытаў, што за свята сёння. На востраве ў гэты дзень ніхто не працаваў.

— Тут кожны дзень свята, — сказаў Эрнест. — Калі ты не лічыш працай рыбную лоўлю.

Пакуль мы стаялі ля стойкі, паявіўся пераможаны, сустрэты бурнай авацыяй. Натоўп расступіўся, прапускаючы яго да стойкі. Ён усё яшчэ трымаўся на нагах не цвёрда, але заказаў піва. Я падаў яму дзесятку. Ён ветліва падзякаваў.

— Ну і ну! — сказаў ён. — Што ж адбылося?

— Ты забываешся на асцярожнасць, —растлумачыў яму Эрнест.

Мы з Гібам не маглі стрымацца ад захаплення тым тонам, якім ён вымавіў сваё «Ну і ну!» і стаў цягнуць піва праз саломінку. Можа, ён не такі ўжо і здаравяк, падумаў я. Ведаеце, як гэта бывае. Калі бачыш, што хлопец зляцеў з катушак долу, пасля гэтага ён ужо не здаецца вельмі моцным. І пачынаеш недалюбліваць таго, хто яго зваліў.

Эрнест, відаць, угадаў мае думкі.

— Як табе спадабалася?—спытаў ён.

— Бой быў вельмі ж ужо няроўным, — сказаў я.— І ў нейкай ступені жорсткім. Ці варта было так мянташыць бедалагу?

Зараз падымецца на дыбкі, падумаў я. Але Эрнест, відаць, не пакрыўдзіўся. Абняўшы мяне, ён прашаптаў на вуха:

— Стаўлю тысячу супраць ста, што от зараз табе не вытрымаць супраць яго і двух раўндаў.

Прыстойная сума, прыкінуў я. Тысяча манет за нейкія шэсць мінут работы. Я паглядзеў на пераможанага. Гэтыя хлопцы хутка ачуньваюць, а ўслых сказаў:

— Кінь гаварыць глупства!

— Час для сіесты*,—сказаў Эрнест і накіраваўся ў атэль. Гэта было дзесьці апоўдні, а мы ўбачыліся з ім толькі на наступны дзень: ён праспаў гадзін васемнаццаць запар. Гэта была яшчэ тая сіеста.

**Працяг у наступным нумары.**

*Сіеста (іспан.) — пасляабедзенны адпачынак.

---

ецца, што назаўсёды палюбіў беларускую зямлю. Былі, зразумела, у яго сустрэчы і з беларускімі кампазітарамі. Ён нават выступаў у Мінску па Беларускім радыё з уражаннямі аб іх творчасці. Ведаючы яго характар, я ўявіў, як ён выступаў. Не, ён не мог крывіць душою, калі нешта не падабалася яму ў творчых прыёмах кампазітараў Беларусі, і шчыра захапляўся іх таленавітай апрацоўкай народных песень, выкарыстаннем народнай музычнай творчасці ў сваіх творах. Цвяроза, нават з усмешкай, ацэньваў ён тыя эксперыменты беларускіх музыкаў, у якіх забывалася на жывое дыханне жыцця. Потым мы разглядвалі падарункі, якія прывёз з сабою Баяджыеў, — творы Семянякі, Багатырова, Цікоцкага, Глебава, Вагнера. З гэтых твораў па прыездзе ў Сафію ён склаў перадачу на цэлы вечар. Яна некалькі разоў транслiравалася па ўсёй рэспубліцы.

Больш за ўсё выказаў Баяджыеў захаплення работай Беларускай акадэмічнай харавой капэлы пад кіраўніцтвам Рыгора Рамановіча Шырмы. Ён проста зачараваны той высокамастацкай інтэрпрэтацыяй песень, якую дае гэты таленавіты калектыў. Вельмі спадабаўся яму і эстрадны аркестр Беларускага радыё і тэлебачання і салістка гэтага калектыву Тамара Раеўская. Творчасць капэлы і гэтага аркестра была шырока асветлена ў перадачах, якія таксама прагучалі па Балгарскім радыё.

— Скажы, калі ласка, — звярнуўся Баяджыеў да мяне. — Што зрабіць, каб як-небудзь залучыць гэтыя два калектывы на гастролі ў Балгарыю?

Я тут нічым не мог яму дапамагчы. Я пытаўся ў яго далей: ці толькі радыё Сафіі прапагандуе беларускую народную песню, творчасць беларускіх кампазітараў? І Баяджыеў сказаў, што не толькі. Ледзь прыехаў ён з паездкі ў Беларусь, як да яго пачалі заходзіць кіраўнікі многіх калектываў, прасілі ноты. І колькі мог забяспечыць, ён даваў усім. Многія з беларускіх песень і цяпер захаваліся ў рэпертуары хораў і эстрадных спевакоў. Але, вядома, усяго гэтага мала. Мусіць, прыйшоў ужо час, каб музычныя сувязі паміж двума братнімі народамі былі значна больш пашыраны і ўмацаваны. Гэта адпавядае інтарэсам абодвух народаў. Гаварыць сёння аб дружбе двух народаў, якая не пацвярджаецца ўзаемаабагачэннем музычных культур, нельга. І я быў цалкам згодзен з Баяджыевым.

Мне б вельмі хацелася ў гэтым першым пісьме паведаміць больш фактаў з музычнага жыцця Балгарыі, менавіта фактаў балгарска-беларускіх музычных сувязяў. Я мог бы расказаць, а зараз даводзіцца адно толькі марыць аб пастаянных узаемасувязях калектываў і асобных выканаўцаў, кампазітараў, каб у нас і ў вас былі папулярныя песні і мелодыі нашых народаў, каб навука ўзбагачалася ўзаемнымі даследаваннямі народнага меласу, каб былі прасочаны беларускія матывы ў творчасці нашых кампазітараў і г. д. і да т. п.

І я веру, што ўсё гэта хутка будзе. Абавязкова.

Я зноў іду па вясновых бульварах Сафіі, і мне ўспамінаюцца словы аднаго беларускага кампазітара,сказаныя мне ў гутарцы — у вас, у Мінску: «Ах, як добра было б, каб і беларуская, і балгарская музыка мелі такіх сваіх папулярызатараў і аматараў, як гэта ёсць у нашых мастацкіх літаратурах!»

Пра дружбу нашых літаратур і літаратараў я напішу ў наступным пісьме. 24 мая ў нас святкуецца — вось ужо сто гадоў — дзень Кірыла і Мяфодзія, свята славянскай пісьменнасці. З гэтага свята, са свежых фактаў я і пачну. А пакуль што — да пабачэння, мае беларускія сябры! Яшчэ раз дзякую за добрую ласку — прадастаўленне штотыднёвікам «Літаратура і мастацтва» магчымасці расказваць аб сяброўстве нашых культур, нашых народаў. Аб росквіце і красаванні гэтых культур, узбагачаных ідэямі сацыялізма.

